# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №37 (146), 14 ВЕРАСНЯ 1994 ГОДА. КОШТ 30 РУБЛЁЎ




## СЛАВАЙ ПРОДКАЎ ГАНАРЫМСЯ

**Такога шматлюднага шэсця, якое адбылося ад помніка Я.Купалы да Опернага тэатра 8 верасня, мабыць, не было з 1991 года, хаця грандыёзныя шэсці ладзіліся не раз. Ішлі з песнямі, з радасным настроем, з воклічам "Жыве Беларусь", які сапраўды ўспрымаецца літаральна: жыве і ўзрастае той жыватворны агонь любові да Бацькаўшчыны, без якога няма народа, нягледзячы на ўсе намаганні ворагаў беларускасці.**

**Тым болей, падзеі апошняга часу яскрава паказваюць: не паважаюць тых, хто не шануе сябе сам. Як ні кляніся ў адданасці да "старэйшага брата", ён будзе бачыць у табе толькі назойлівага жабрака, які хоча ўсесціся яму на карак — калі бачыць, што ты і не збіраешся ладзіць сваю гаспадарку, а глядзіш яму ў кішэнь. Думаецца, што і выступленне ў педінстытуце імя Горкага, і сумна славутае інтэрв'ю Караулаву, для якога Ельцын толькі авантурыст, які "загубіў" Расію", нямала паспрыялі таму, каб да Опернага тэатра прыйшлі і тыя, для каго адчуваць сябе беларусам — не першаступенная справа і чыя душа абцяжарана найбольш нашым нялёгкім бытам. Але "дапякло" і іх. Дый хіба мы не былі паслухмяна-паслужлівымі абарыгенамі ўсе мінулыя стагоддзі, каб і сёння нас бессаромна называлі "краінай агуркоў", а першага прэзідэнта ляпалі па плячы і паблажліва паплёўвалі ў яго бок заезджыя журналісты?! І той жа Караулаў, нібы вяльможна прымаючы іспыт, паставіў-такі ў рэшце рэшт пяцёрку "ну зусім свайму" Аляксандру Рыгоравічу! Ох, горка было ўсё гэта бачыць і чуць! І хаця святочнай калоне спачатку не давалі выйсці з парка Я.Купалы, шэсце — і адпаведна свята — адбылося. І панавала на ім не варожасць да рускага народа, а высокае адчуванне сваёй годнасці, што амаль дашчэнту было зацкаванае "дзікім паляваннем", а цяпер прыходзіць зноў і , спадзяемся, назаўжды — аднаўленае, трапяткое, светлае...**



## СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

### У ІМ — НАРОДНАЯ ДУША

Значнай падзеяй у культурным жыцці краіны стаў дабрачынны канцэрт "Песняроў" у Палацы спорту 11 верасня.

Ужо з дзвюх гадзін (канцэрт пачынаўся ў 18.00) моладзь тоўпілася ля ўваходу. Але трапіць у залу ўсе жадаючыя так і не змаглі, пасарамаціўшы прагнозы тых, хто лічыць, што беларуская народная песня здае свае пазіцыі. "Песняроў" любяць і шануюць, што засведчыла не толькі шырокая публіка, але і прэзідэнт А.Лукашэнка, чыё з'яўленне для многіх аказалася нечаканым. Нягледзячы на хваробу, прэзідэнт глядзеў канцэрт да канца, што таксама аказалася нязвыклым для тых чыноўнікаў, якія на дух не пераносяць ні "Пагоні" М.Багдановіча, ні "Малітвы" Я.Купалы і да іх падобных песень, якімі шчодра была насычана цікавая і змястоўная праграма, дзе бралі ўдзел ансамбль "Харошкі" і Камерны хор пад кіраўніцтвам І.Мацюхова.

"Гэта перамога той ідэі, якой я аддаў 25 гадоў свайго жыцця", — сказаў пасля канцэрта народны артыст СССР Уладзімір Мулявін — чалавек, які пакарыў мільёны слухачоў адданасцю беларускай песні. Нездарма ў адным з прысвячэнняў яму ў гэты вечар былі і такія радкі:

*Найдаражэйшае ў народзе*
*Ён свету паказаў спярша.*
*І светла-малады Валодзя,*
*Бо ў ім — народная душа.*

**Наш кар.**




**Ля тэлефона дзяжурыў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

**Яўген Новікаў, народны дэпутат РБ, старшыня Лігі абароны правоў чалавека:**

— На вялікі жаль, з'яўленне ў нашай палітычнай сістэме інстытута прэзідэнцкай улады пакуль ніяк не адбілася на праблеме правоў чалавека. Дзяржаўная палітыка яе папросту не заўважае. Апошнім часам трохі абнавіўся вышэйшы слой дзяржаўнага апарату, а ўнізе — у судах, пракуратуры і г.д. працуюць ранейшыя людзі. Мы штодзень атрымліваем велізарную колькасць лістоў і тэлефонных званкоў, якія пакідаюць такое ўражанне, што грамадства раздушана дзяржавай: людзі ўжо не ведаюць, дзе шукаць праўды. Адгукнуцца на ўсе скаргі мы не маем магчымасці, бо камісія працуе на грамадскіх пачатках, на свае грошы. Галоўнай праблемай мы лічым немагчымасць ажыццяўлення народнымі дэпутатамі палітычнай дзейнасці паводле сваіх перакананняў. Многіх дэпутатаў пераследуюць мясцовыя органы ўлады за іхнюю барацьбу з карупцыяй і мафіяй. Другая па важнасці —праблема правоў чалавека ў зняволенні (турмах, калоніях, следчых ізалятарах). Вязні скардзяцца на масавыя фізічныя катаванні (не кажучы ўжо пра маральныя). Ёсць проста жудасныя выпадкі. Напрыклад, следчы адправіў 19-гадовага хлопца, які адмовіўся даваць паказанні, у камеру са сваімі агентамі, дзе яго згвалцілі, разарваўшы прамую кішку.



Мал. Г.Кузніцка

Цяпер гэты хлопец, інвалід 2-й групы, адбывае тэрмін у калоніі, а ягоная маці моліць мяне нідзе не згадваць ягонага прозвішча, бо заб'юць хлопца. Таго следчага замянілі іншым і ціхенька прыкрылі гэтую справу.

Нядаўна быў вынайдзены новы езуіцкі спосаб вынішчэння людзей. Напрыклад, за дробнае хуліганства прысуджаюць тры гады ўмоўна і пасылаюць працаваць у вёску ў чарнобыльскай зоне адсялення. Некалькі тысяч маладых хлопцаў прымушаюць жыць у радыеактыўнай зоне. Маці аднаго з іх апавядала мне пра такое пасёлішча: шэрыя твары, галаўны боль, абыякавасць да ўсяго, штодзённая п'янка. Вы разумееце, не толькі мясцовым жыхарам не дапамагаюць выехаць з забруджаных раёнаў, але яшчэ ссылаюць туды людзей з "чыстых" гарадоў і вёсак, фізічна разбураючы генафонд нацыі! Хіба гэта не езуіцтва, не генацыд? Як грамадзянін і народны дэпутат, я сцвярджаю: сталінскі ГУЛАГ працягвае існаваць на Беларусі, але ён цяпер яшчэ пасыпаны чарнобыльскім попелам. Калі я паведаміў пра ўсё гэта ў праваахоўныя арганізацыі Германіі, Англіі, Галандыі — там проста за галаву схапіліся: такога ніхто не чакаў. І як мы можам весці размовы пра дэмакратызацыю і рэформы, калі адбываецца мэтанакіраванае і наўмыснае знішчэнне людзей? Я не ведаю, як гэта назваць: сатанізмам, антысветам, антыутопіяй?..

### ДОБРАЯ ТРАДЫЦЫЯ "ТРАДЫЦЫІ"

У Светлагорску пачала працаваць мастацкая галерэя "Традыцыя", у чым вялікая заслуга гарадской адміністрацыі і мясцовых спонсараў. У галерэі ўжо былі наладжаны персанальныя выставы вядомых беларускіх мастакоў Леаніда Дударэнкі, Аляксея Марачкіна, Мікалая Казакевіча. А зусім нядаўна ў ёй адкрылася экспазіцыя мясцовага жывапісца Германа Пранішнікава. Нялёгка склаўся лёс гэтага заўчасна памёршага мастака. Але пасля сябе ён пакінуў землякам вялікую спадчыну: дзесяткі карцін. У іх ліку гістарычныя — "Еўфрасіння Полацкая", "Рагнеда", "Аляксандр Неўскі", "Паядынак Перасвета з Чэлебеем". На сучасную тэму жывапісцам створана палатно "Апошняя інстанцыя" аб бедах нашага жыцця.

Вельмі ўражвае трыпціх Германа Пранішнікава "Нескароныя", які ўключыў у сябе палотны "Вайна", "Усе тут", "Пасля Перамогі". У ім суровая праўда мінулай вайны, трагічныя вобразы створаны манументальна, страсна, таленавіта.

Для твораў мастака характэрныя насычаная колеравая гама, глыбокая распрацоўка сюжэтаў і вобразаў.

Як сказаў дырэктар галерэі, член Саюза журналістаў І.Катляроў, "Традыцыя" будзе і надалей знаёміць светлагорцаў з творамі лепшых майстроў Беларусі.

**А.ШНЫПАРКОЎ**

**8-21 верасня**

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі клуб С.Фяненкі "Постэлітарнае кіно" на вялікім экране прадстаўляе праграму фільмаў пад агульнай назвай "Навіны кіно". Гледачам прапанаваны фільмы "Фартэпіяна" Дж.Кэмпіян, "Тры колеры: сіні" К.Кясьлеўскага, "Бывай, мая наложніца" Чэн Кайгэ і "Высокія абцасы" П.Альмадовара.

**24 верасня**

У Берліне адбудзецца чэмпіянат Еўропы па 10 танцах сярод прафесіяналаў. Беларусь будуць прадстаўляць 2 пары: В. і А.Ляшэнкі з Мінска і А. і Н.Кананенкі з Віцебска.

**12 верасня**

На 8-м канале Мінскага тэлебачання пачала выходзіць штодзённая праграма "Студыя "БМ", якую рыхтуюць журналісты радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная". Тэлегледачам будуць прапанаваны аўтарскія праграмы "Фан-клуб", "Квадракола", "9-е воблака", "Пілігрым", "Арт-панарама", "Суботняя зорка", "На даху" і інш.




**23 верасня**

У Беларускім універсітэце культуры будзе праведзена навукова-практычная канферэнцыя выпускнікоў бібліятэчнага факультэта, прысвечаная 50-годдзю з дня заснавання факультэта.

**16 верасня**

У вёсцы Вялешына Капыльскага раёна адбудзецца ўрачыстае адкрыццё помніка мастаку кнігі, заслужанаму работніку культуры Беларусі Г.Галубовічу (1934 — 1992). У гэты ж дзень у памяшканні бібліятэкі ў Капылі адбудзецца прэзентацыя кнігі "Іканапіс Беларусі XV — XVIII стст.", прысвечанай памяці мастака (аўтар-складальнік — Н.Высоцкая). Арганізатары акцыі: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, Капыльская цэнтральная раённая бібліятэка імя А.Астрэйкі, Капыльскі краязнаўчы музей.

**20 верасня**

У Мінску ў рамках Міжнароднага года сям'і будзе распачата акцыя "Матуліна песня", якую падрыхтавалі Мінгарвыканкам, Цэнтр адраджэння нацыянальнай культуры Мінгарвыканкама і Асацыяцыя жанчын г.Мінска. Сярод мерапрыемстваў — сустрэча членаў клуба "Баявыя сяброўкі", што адбудзецца 20 верасня ў Доме ветэрана, 22 верасня там жа будзе праведзена сустрэча ўдоў і мацярок ветэранаў вайны ў Афганістане "Запалі, маці, свечку", у пачатку кастрычніка ў музеі П.Машэрава ў школе N 137 маецца адбыцца сустрэча малалетніх вязніц фашысцкіх канцлагераў, 11 кастрычніка адбудзецца адкрыццё ў мікрараёне Уручча малочнай кухні для мнагадзетных сем'яў. Завершыцца акцыя вялікім святам у Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі 14 кастрычніка.

**14 верасня**

У мінскай галерэі "Медэя" адкрыецца новая выстава жывапісных і графічных работ беларускіх мастакоў.

## ФЭСТ З ПРАЦЯГНУТАЙ РУКОЙ




Палітычныя падзеі на Беларусі адсунуліся на задні план: і ўсё з-за міжнароднага маладзёжнага фестывалю "Новыя твары", які прайшоў па гарадах і вёсках рэспублікі з 20 жніўня па 2 верасня. І нічога дзіўнага ў гэтым няма: такога вялікага свята, шчыра кажучы, наша моладзь даўнавата не бачыла...

Уся гэтая грандыёзная акцыя — ад пачатку да канца — абавязана сваім жыццём Святлане Каралёвай, старшыні рэспубліканскай маладзёжнай арганізацыі "Наступны прыпынак — новае жыццё". Менавіта з яе лёгкай рукі паўтара гады таму пра фестываль загаварылі ўголас. Дзякуючы Святлане, аганізатарцы і натхніцельцы праекта, напрыканцы жніўня, на пачатку верасня пяцьсот маладых людзей з чатырнаццаці краін свету (Германіі, Даніі, Галандыі, Швейцарыі, Францыі, Расіі, Украіны...) здолелі трапіць на "Еўрапейскае Скрыжаванне" — Беларусь, каб самавыказацца ў тэатры, жывапісе, музыцы, палітыцы, экалогіі, для далейшага наладжвання культурных кантактаў, актывізацыі маладзёжнага руху і абмену духоўнымі каштоўнасцямі.

Яны прыехалі на Беларусь — еўрапейскае скрыжаванне, каб яшчэ раз пацвердзіць, што настаў час новых твараў, новых імёнаў. Імёнаў маладых людзей, якія адзіныя ў тым, што "культура — гэта самая правільная палітыка, экалогія — лад жыцця, а самае вялікае багацце любой краіны — добрыя людзі". Чатырнаццаць дзён беларуская зямля адкрывала для сябе таленты — няхай амаль што невядомыя, якія робяць толькі першыя крокі. Няхай! Але паўмесяца ў краіне было свята моладзі — у Гомелі і Светлагорску, на возеры Нешчарда, на Берасцейшчыне і ў Маладзечне, а з 29 жніўня па 2 верасня ў Мінску, дзе ўсе гэтыя дні з дзесяці раніцы да чатырох ночы для кожнага ўдзельніка былі запоўнены да краёў працай.

Канцэрты, выставы і спектаклі праходзілі па ўсёй сталіцы — у парку імя Горкага, на бульвары Я.Купалы, у Палацы моладзі і на "Вольнай сцэне", у каардынацыйным цэнтры СНД.

Адначасова ў Мінску, у межах фестывалю, праходзіла сустрэча маладых палітыкаў "Скрыжаванне". Сярод яго ўдзельнікаў былі прадстаўнікі дзяржаўных структур па справах моладзі, лідэры маладых грамадскіх арганізацый, прадстаўнікі Нацыянальных радаў, маладыя парламентарыі, вучоныя, дзеячы культуры і экалогіі з новых незалежных дзяржаў.

У ходзе пленарных паседжанняў былі абмеркаваны шматлікія праблемы, з якімі сутыкаецца маладое пакаленне новых незалежных дзяржаў.

Але за святочным фасадам фестывалю — бяссонныя ночы Святланы Каралёвай і яе сяброўпаплечнікаў, калі на сон прыпадала дзве-тры гадзіны. Сон, які перарываўся трывожнымі тэлефоннымі званкамі і... і пастаянны галаўны боль: дзе знайсці сродкі на чарговае мерапрыемства?

— *Нам вельмі многія дапамаглі,* — гаворыць Святлана, — *Фонд Сораса, напрыклад, які амаль не фінансуе правядзенне мерапрыемстваў такога кшталту, аплаціў білеты дахаты кожнаму ўдзельніку фестывалю. Атрымалася прыкладна па сто дзесяць даляраў на чалавека. А гэтае пытанне для мяне было адно з найважнейшых... Я на нейкім этапе зразумела, што не змагу знайсці неабходную суму, каб забяспечыць ад'езд выканаўцаў.*

*Праўда, у нашай арганізацыі "Наступны прыпынак — новае жыццё" ёсць пэўны фонд на сумесныя праекты з замежнымі партнёрамі — нешта каля пяці тысяч даляраў, і траціць іх мы не мелі права, але ж усе грошы пайшлі на фестывальныя выдаткі. Падвялі некаторыя фундатары. Так што зараз ламаем галаву, як тую суму вярнуць назад. А была ж у нас не абы якая задума — галоўнае, каб падняць прэстыж Беларусі, стварыць прэцэдэнт, тым самым падключыцца да еўрапейскага супольніцтва, дапамагчы маладзёжнаму руху.*

*Таму мяне толькі за парушэнне статутнай дзейнасці (выдаткаванне рахункавых грошай на фестываль) трэба гнаць з пасады старшыні арганізацыі...*

А колькі разоў маладзёжны фэст увогуле аказваўся перад пагрозай зрыву! Прынамсі "вандроўнікі", падрыхтаваўшы ў Віцебску дэкарацыі і заплаціўшы за сваё выступленне тры мільёны рублёў, так і не парадавалі віцяблян сваімі канцэртамі з-за безадказнасці гарадскіх уладаў. А з трыццаці чалавек аргкамітэта праз дзесяць дзён засталіся толькі дзесяць — фізічныя нагрузкі аказаліся некаторым не пад сілу.

І зноў падвялі фундатары, якія адказвалі за адкрыццё "Новых твараў". І яго арганізатары, у літаральным сэнсе слова, вымушаны былі выйсці на вуліцы горада з працягнутай рукой, каб прасіць грошы ў прахожых. Вось так і наскрэблі патрэбную суму...

У выніку — толькі дзякуючы энтузіязму арганізатараў Міжнародны маладзёжны фэст "Новыя твары" адбыўся на належным узроўні і годна прыйшоў да фінішу...

... Наступны прыпынак — працяг фэсту. Будзем спадзявацца... у хуткім часе.



**Наш кар.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

СІТУАЦЫЯ

# СПАДЗЯВАНКІ НА РАЗУМНАГА ПАНА

Найбольшую ўвагу на прэс-канферэнцыі намесніка главы прэзідэнцкай адміністрацыі М.Сазонава прыцягнула пытанне аб мясцовых органах улады. Было паведамленне, што ў другой дэкадзе верасня адбудзецца нарада старшыняў выканкамаў мясцовых саветаў. Ініцыруючы гэтую нараду, адміністрацыя прэзідэнта бярэ за мэту, з аднаго боку, "атрымаць падтрымку і разуменне на месцах", а з другога — "паслухаць, што яны збіраюцца рабіць".

М.Сазонаў канстатаваў, што зараз наогул мае месца безуладдзе, бо мясцовыя ўлады пакуль што не працуюць, а чакаюць, якія захады будзе рабіць новая прэзідэнцкая каманда. Пры гэтым асабіста М.Сазонаў супраць стварэння інстытута прэзідэнцкіх прадстаўнікоў на месцах, паколькі, на яго думку, калі да маючых быць прадстаўнічых і выканаўчых структураў дадаць яшчэ і гэты інстытут, дык узнікне трохуладдзе, — тым больш што зараз няма строгага падзелу паўнамоцтваў. Праблему падзелу паўнамоцтваў, дарэчы, М.Сазонаў лічыць вельмі важнай і спадзяецца, што яе вырашэнню паспрыяюць законы аб выканаўчай уладзе і аб структуры і правах мясцовых саветаў, праекты якіх будуць разглядацца на бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета. Таксама М.Сазонаў зазначыў, што многія заканадаўчыя акты, якія прымаліся раней, перад увядзеннем пасады прэзідэнта, знаходзяцца ў супярэчнасці з цяперашнімі, і выпрацаванне гэтага становішча, прывядзенне такіх законаў у адпаведнасць з новай Канстытуцыяй вымагае вялікай работы.



Мал. Дар'юша Петрака

Я павінен адзначыць узважанасць падыходаў М.Сазонава, яго шчырае, паводле майго ўражання, жаданне паспяхова вырашыць відавочныя праблемы ў гэтай галіне. Аднак не магу пакінуць па-за ўвагай адну абсалютна невырашальную супярэчнасць. М.Сазонаў казаў пра неабходнасць карыстацца вопытам цывілізаваных краін у развіцці мясцовага самакіравання — і поруч з гэтым пра "магчымасць пабудаваць вертыкаль выканаўчай улады", пра тое, што мясцовыя органы павінны праводзіць палітыку прэзідэнта. Але ў цывілізаваных краінах нічога падобнага няма! Так, пытанне мясцовага самакіравання там вырашаецца па-рознаму, але ж гэтае "па-рознаму" тычыцца толькі таго, чым напаўняецца сфера кампетэнцыі той ці іншай структуры. Аднак мясцовыя органы не павінны праводзіць палітыку прэзідэнта і не падпарадкоўвацца цэнтральнай уладзе: іхняя паўнамоцтвы строга размежаваныя. У Гішпаніі, напрыклад, непасрэдна ў Канстытуцыі пералічваецца 20 з лішкам пазіцый, якія ўваходзяць у сферу выключна мясцовых органаў, і з Мадрыда на іх няма магчымасці ўплываць; у Францыі паўнамоцтвы "мясцовых самакіруемых калектываў" вызначаюцца спецыяльным законам. Гэта значыць, што калі, скажам, гарадскі транспарт і прыбіранне тэрыторый горада мы адносім да кампетэнцыі гарадской улады, дык няма сэнсу скардзіцца прэзідэнту на тое, што аўтобуса не дачакацца, а вуліцы брудныя да агіды. Прэзідэнт не зможа дапамагчы пры ўсім жаданні — гэта не ягоная сфера. У дзейнасць органаў мясцовага самакіравання можна ўмешвацца толькі ў выпадку парушэння імі закону, аднак і аб гэтым будуць рабіць заключэнні не ўрад і прэзідэнт, а суд і пракуратура. Калі ж у гэтым плане ўсё нармальна, дык органы мясцовага самакіравання павінны быць адказнымі толькі перад сваімі выбаршчыкамі — а тыя вольныя ў выпадку незадаволенасці абіраць іншага мэра (ці бургамістра — не ў назве сутнасць). Гэткія выбары, на маю думку, у нашых умовах варта было б праводзіць часцей за прэзідэнцкія і парламенцкія — прыблізна раз у два гады. Вось у такой сітуацыі да месца былі б і прадстаўнікі прэзідэнта альбо ўрада — яны б сачылі за выкананнем рашэнняў якраз цэнтральнай улады, таго, што не ўваходзіць у кампетэнцыю мясцовых органаў, і тады б не было ніякага "трохуладдзя", таму што сферы іхніх паўнамоцтваў проста не перакрыжоўваліся б. Вось тады не будзе ў Вярхоўным Савеце недарэчных размоў пра дах, які цячэ, і плот, які пакасіўся — кожная галіна ўлады будзе займацца сваёй справай. Але я ўзгадваю семінар, прысвечаны мясцоваму самакіраванню, які праводзіўся Фондам імя Л.Сапегі пару гадоў таму. Выступалі прадстаўнікі бліжэйшага замежжа і былога сацлагера, выказваліся розныя погляды і падыходы, і пры гэтым ледзь не ўсе адзначалі, што з захаваннем вертыкальнай падпарадкаванасці, без незалежнасці і самастойнасці мясцовых структураў ніякае самакіраванне немагчымае ў прынцыпе. Беларускія ж дэпутаты, якія бралі ўдзел у семінары (а значыць, павінны былі разбірацца ў гэтай праблеме), здзівіліся, не тое што не згаджаліся, а наогул не зразумелі, пра што ішла гаворка, як гэта магчыма разбурыць тую вертыкаль. Дык што ўжо казаць пра дэпутацкую большасць?! Думаецца, што і на сённяшні дзень гэтае разуменне не нашмат вышэй. У законапраектах захоўваецца сістэма саветаў, адсутнічаюць прамыя выбары кіраўнікоў гарадской адміністрацыі — г.зн. замест мясцовага самакіравання застаецца савецкая ўлада з усёй яе прыгажосцю. Праўда, М.Сазонаў заўважыў, што гэта толькі праекты, у якія могуць унасіцца любыя змяненні — але вядома, на змяненні якой якасці здольны доблесны цяперашні склад Вярхоўнага Савета.

На жаль, аналагічнага пункту гледжання на мясцовае самакіраванне прытрымліваецца і яшчэ адзін уплывовы член прэзідэнцкай каманды — А.Фядута: ён заявіў, што на вышэйзгаданай нарадзе з кіраўнікамі органаў мясцовай улады прэзідэнт "атрымае інфармацыю, як выконваюцца ягоныя даручэнні (падкрэслена мною. — В.К.) і рэкамендацыі (а ці не адраджэнне гэта практыкі "рэкамендацый" з боку партыйных камітэтаў кіраўнікам вытворчасці і саветам усіх узроўняў? — В.К.) органам мясцовай улады". Ды і сам А.Лукашэнка ў вядомай гутарцы па Расейскім тэлебачанні расказаў, як ён, выпадкова заўважыўшы натоўп людзей на прыпынку, учыніў разнос міністру транспарту, і на пярэчанне апошняга наконт таго, што гэта знаходзіцца ў распараджэнні Мінгарвыканкама, па-за паўнамоцтвамі міністэрства, адказаў: няважна, чые паўнамоцтвы, маўляў, давай, вырашай праблему. З другога боку, прэзідэнт ужо неаднаразова выказваў разуменне неабходнасці якраз размежавання паўнамоцтваў — аднак, па-першае, разуменне гэтае, як бачым, яўна невыразнае, а па-другое, пакуль гэта не адлюстравалася ў законах ды ў пастановах выканаўчай улады, усе выказванні застаюцца пустым гукам.

Справа, канешне, не толькі ў пазіцыі прэзідэнта або Вярхоўнага Савета. Як вядома, у нашым грамадстве не пазбавіліся моцы надзея на выратавальную ролю цэнтралізацыі, на мудрае кіраўніцтва, якое нарэшце здолее належным чынам вырашыць усе пытанні -- і наўрад ці дзяржава атрымае лепшую долю, пакуль застарэлая ілюзія не развеецца.

Дарэчы, М.Сазонаў заявіў, што да супрацоўнікаў апарату і адміністрацыі прэзідэнта прад'яўляюцца жорсткія патрабаванні, якія тычацца не толькі прафесійных, але і маральных якасцяў: трэба працаваць сумленна, каб на першым месцы былі інтарэсы дзяржавы, а не свае асабістыя. Папярэдняя адміністрацыя, па словах М.Сазонава, "праславілася надобрасумленнасцю і неразборлівымі сувязямі з камерцыйнымі структурамі". Сам ён разумее, што адно толькі павышэнне патрабаванняў не вырашыць складанае пытанне, і тут цяжка з ім не пагадзіцца. Але трэба ўлічваць і тое, што пра сумленных чыноўнікаў марыў яшчэ Ленін, і савецкая дзяржава нагляднa прадэманстравала, што эфектыўнасць работы дзяржапарату, як і эканомікі, на энтузіязме і самаадданасці асобных людзей пабудаваць нельга. Трэба стварыць сістэму, пры якой асабісты інтарэс чыноўніка наўпрост залежаў бы ад інтарэсаў дзяржавы. Толькі ці падыйдзем у рэшце рэшт да стварэння такой сістэмы? Або будзем усё спадзявацца на разумнага пана, які будзе правіць па справядлівасці?

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# ЧЫРВОНЫЯ ДАТЫ КАЛЕНДАРА АЖЫВАЮЦЬ НА КАМСАМОЛЬСКІХ СХОДАХ

***Калі разбураюцца ідэалы — гэта надоўга. Ці назаўсёды. З крахам камуністычнай ідэалогіі ў эпоху гарбачоўскай адлігі без лішняга шуму сышоў у нябыт ВЛКСМ і яго пятнаццаць малодшых братоў, раскіданых па сёстрах-рэспубліках СССР. У самага закончанага аптыміста ці фантазёра не хапіла б смеласці нават дапусціць, што 72-гадовы манапаліст на душы і думкі савецкай моладзі пасля здолее ачухацца. Прычым так хутка...***

Восень, год 1992. Да таго часу камсамол Беларусі ўжо пахавалі, а надмагільным крыжом яму паставілі Саюз Моладзі Беларусі. Камсамольскія босы паспяшаліся "атрымаць" ачышчэнне за свае грахі, якія набіраліся больш за 70 гадоў, і нават не знайшлі нічога лепшага, як зрабіць ЛКСМБ "абразанне". Аднак той жа восенню на плошчы яшчэ тады таварыша Леніна малады журналіст Сяргей Вазняк, які працаваў у газеце "Во славу Родины", на нешматлікім камуністычным мітынгу праклінаў на чым свет стаіць апошняга прадстаўніка са старой кагорты камсамольскіх лідэраў тав.Зюкіна і яго прыхільнікаў — "зюкіных дзяцей" за развал ВЛКСМ. Тады ж Сяргей Вазняк пакляўся рэанімаваць камсамол у Беларусі і на абшарах былога Саюза.

... Два гады назад камсамольцу-адзіночцы можна было б параіць хіба што звярнуцца да псіхіятра...

Год 1994. ЛКСМ Беларусі налічвае ў сваіх шэрагах каля 800 камсамольцаў. Спакваля, але настойліва камсамол заваёўвае глыбінкі. Цяжка назваць яшчэ якуюнебудзь маладзёжную арганізацыю ў Беларусі, што так настойліва імкнецца не толькі на перыферыю, але і выходзіць на міжнародную арэну. Толькі за жнівень — у гэтую пару палітычнае жыццё ў краіне нагадвае стаячае балота — камсамольцы зрабілі столькі, колькі некаторым на такі аб'ём работы не хопіць і трох месяцаў...

У другой дэкадзе жніўня дэлегацыя ЛКСМБ на чале з нязменным "першым" Сяргеем Вазняком праклала дарогу на Усход. Яна нанесла афіцыйны візіт свайму брату па ідэалогіі — Сацыялістычнаму Саюзу моладзі Карэі. Падчас сустрэчы лідэры ЛКСМБ і ССМК падзяліліся вопытам сваёй дзейнасці. Аднак гэтым яны не абмяжаваліся: было заключана пагадненне аб двухбаковым супрацоўніцтве. І ўжо ў 1995 годзе дэлегацыя ССМК прыедзе на Беларусь набірацца вопыту, а прадстаўнікі ЛКСМБ з той жа мэтай накіруюцца ў Карэю.



Сацыялістычны Саюз моладзі Карэі выступіў з ініцыятывай, а беларуская дэлегацыя ўспрыняла ідэю на "ўра!" — праз год-другі правесці сусветную канферэнцыю маладзёжных арганізацый камуністычных арыентацый на ўзроўні першых сакратароў. Абмяркоўваліся нават месца і час яе правядзення...

"Заваяваўшы" Карэю і вярнуўшыся на радзіму, Сяргей Вазняк не марнаваў часу: напрыканцы жніўня ён ужо паспеў пабываць у белакаменнай. Менавіта ў "первопрестольной" лідэр беларускіх камсамольцаў меў сустрэчу з Генеральным сакратаром Сусветнай федэрацыі маладзёжных арганізацый. Апошні прапанаваў членства ў сваёй арганізацыі ЛКСМБ. Як божы дзень ясна, што С.Вазняк даў згоду. А 10 верасня, на чарговым пленуме Цэнтральнага Камітэта камсамола, магчыма, "дабро" на ўступленне ў СФМА дадуць і "цэкоўцы".

Аднак паездка ў Маскву не абмяжоўвалася толькі гутаркай з Генсекам СФМА. Сяргей Вазняк сустрэўся і са сваім калегам — "першым" у ЦК Расійскага камсамола Ігарам Смаляровым.

І, відаць, доўгая гісторыя з аднаўленнем ВЛКСМ наблізіцца да свайго фінішу. "Першыя" дамовіліся 29 кастрычніка гэтага года, у дзень 76-годдзя ВЛКСМ, правесці ў Маскве Усесаюзную нараду камсамольскіх лідэраў, дзе, хутчэй за ўсё, вырашыцца лёс XXV з'езда ВЛКСМ. Па папярэдніх звестках, гэты форум мае адбыцца ўвесну 1995 года.

А ўжо 10 верасня — пра гэта гаварылася трохі раней — у Мінску адбудзецца пленум ЦК ЛКСМБ. Абмеркаваўшы бягучы палітычны момант, камсамольцы вырашаць — станавіцца ім калектыўным членам Сусветнай федэрацыі маладзёжных арганізацый ці адкінуць прапанову Генсека СФМА. Хутчэй за ўсё, адказ будзе станоўчым.

А пад заслону пленума Першы сакратар ЦК ЛКСМБ дасць справаздачу камсамольскаму ядру аб выніках візіту ў Карэю, аб ходзе перамоваў са старшынёй Сацыялістычнага Саюза моладзі Карэі...

**Юрась ДУБІНА**

**P.S.** Да камсамольцаў можна ставіцца па-рознаму — пагардліва, са смехам ці ўхваляць іх. Але трэба прызнаць, што ўсяго за два гады ЛКСМБ, які з такой ганьбай нібыта развальўся, адрадзіўся, як птушка Фенікс. Адрадзіўся адным з першых у былым Саюзе, і менавіта ЛКСМБ і яго лідэр тав.Вазняк на сённяшнім этапе адыгрываюць першую скрыпку ў камсамольскім руху ў краінах СНД.

А гэта штосьці ды значыць...

**Ю.Д.**

ПАСОЛЬСКІ КЛУБ

# АД ВАРШАВЫ ДА МІНСКА, АД МІНСКА ДА ВАРШАВЫ

***Культурныя стасункі Беларусі з Польшчай адзначаюцца шырынёй і разнастайнасцю, больш таго, яны пазначаны жывой цікавасцю аднаго народа да другога і своеасаблівай пранікнёнасцю і цеплынёй.***

***Здавалася б, Польшча — наша бліжэйшая суседка, з ёю Беларусь звязвае славянская роднасць і культура, гісторыя, блізкасць моў і традыцый, і мы павінны ведаць пра яе няблага, але пакуль што тут існуе нейкі інфармацыйны вакуум. У сваю чаргу, па заходні бок мяжы таксама не валодаюць у поўнай меры інфармацыяй пра нас, застаюцца яшчэ ў палоне пэўных стэрэатыпаў. Парушыць гэты нябачны бар'ер, накшталт своеасаблівай "берлінскай сцяны", умацоўваць добрыя, адпаведныя духу канца XX стагоддзя адносіны паміж краінамі — такую мэту ставіць амбасада Рэспублікі Польшча на Беларусі, яе культурная служба, якую ўзначальвае дарадца па культуры і навуцы Марэк Галкоўскі. Сёння ён наш госць.***

— Трэці год працую на Беларусі, — расказвае пра сябе сп.Галкоўскі. — Па адукацыі філолаг, скончыў у 1982 годзе Варшаўскі універсітэт, факультэт польскай філалогіі. Калі мне прадаставілася магчымасць заняцца дыпламатычнай работай, я з імпэтам уключыўся ў яе, прыехаўшы на Беларусь. І чым больш я знаходжуся ў вашай краіне, тым больш адкрываю яе для сябе і тым цікавей працуецца.

**— Яшчэ колькі гадоў таму ўзровень жыцця палякаў і беларусаў не надта адрозніваўся. За даволі невялікі тэрмін Польшча далёка пайшла наперад па шляху рэформ, пакінуўшы ўсходнюю суседку таптацца на пачатку дыстанцыі.**

— Не буду сцвярджаць, што польскі шлях ідэальны. Ёсць і іншыя добрыя прыклады. Але на сваім шляху да дэмакратыі, прагрэсу эканамічнага і палітычнага мы маем дасягненні. Вывучаючы наш вопыт, беларусы маюць магчымасць пазбегнуць тых памылак, якія зрабілі мы.

**— З Польшчай, як з ніводным нашым суседам (і гэта адзначаюць прэса, грамадскасць), наладжана шматбаковае, цікавае і плённае культурнае супрацоўніцтва...**

— Прыемна пачуць такое меркаванне. З польскага боку робіцца шмат захадаў, каб нашы кантакты пашыраліся і набывалі інтэлектуальны і глыбокі духоўны змест. Дастаткова прыгадаць нядаўні "Славянскі базар" у Віцебску. Мы падрыхтавалі спецыяльна для яго вялікую і, як нам падалося, цікавую праграму. Былі сабраны лепшыя сілы. Праўда, мы не зусім улічылі той момант, што на віцебскім фэсце перавага аддаецца музыцы, як кажуць, "для ўсіх", г.зн. вельмі лёгкай. Мы ж прыехалі з рэчамі трохі іншымі. Паказалі сучасную музыку розных відаў, якая існуе і развіваецца побач са шлягернай, у прыватнасці, гарадскі фальклор. Шкада, што наша маладая спявачка Эдзіта Гурняк — уладальніца другой прэміі Еўрабачання — выканала толькі адзін твор, і гледачы не мелі магчымасці па-сапраўднаму ацаніць яе адметнасць і высокае майстэрства.

Увогуле, хачу падкрэсліць, што ў галіне музыкі мы наладзілі самае шырокае супрацоўніцтва. Толькі сёлета (не кажучы ўжо пра ранейшы перыяд) на другім фестывалі "Адраджэнне беларускай капэлы" разам з цудоўнымі беларускімі артыстамі выступіў польскі ансамбль камернай музыкі, нашы маладыя выканаўцы сучаснай музыкі. Сваё майстэрства паказаў знакаміты піяніст Зігмунд Краўзэ. У траўні прайшлі польска-беларускія Дні музыкі, калі польскія ансамблі вы бачылі тут, а ваш "Класік-авангард" даваў канцэрты ў нас. Беларускія музыканты бралі ўдзел у фестывалі, прысвечаным Станіславу Манюшку, у Польшчы. Зусім неверагодным нам падалося тое, як беларусы здолелі наладзіць на высокім узроўні два выдатныя канцэрты, калі выступілі сімфанічны аркестр, цудоўныя беларускія оперныя спевакі, а ў касцёле Святога Роха адбыўся камерны вечар "Манюшка на радзіме". У тас такое арганізаваць даволі складана. Гэта было проста цудоўна. І я з вялікай пашанай стаўлюся да дзейнасці арганізатараў — адраджэнцаў беларускай капэлы.

**— Будзем спадзявацца, што супрацоўніцтва ў гэтым рэчышчы працягнецца і далей...**

— Я таксама спадзяюся. У нас ёсць сілы і жаданне працягваць дзейнасць у гэтым накірунку. Ёсць намер паставіць у канцы 1995 года на сцэне вашага Вялікага тэатра оперы і балета оперу "Парыя" Станіслава Манюшкі.

Баюся, што на працягу аднаго інтэрв'ю не здолею расказаць пра ўсе аспекты нашага культурнага і навуковага супрацоўніцтва. Як вядома, падпісана дамова паміж Міністэрствамі адукацыі і культуры Беларусі са сваімі адпаведнікамі з польскага боку. Рыхтуюцца новыя дамовы. Хутка будзе падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве ў галіне захавання культурнай спадчыны. Гэта вельмі важны дакумент. У нас агульная гісторыя, таму ўзаемная дапамога і падтрымка проста неабходныя. Самы добры прыклад сумеснай дзейнасці — музей Міцкевіча ў Навагрудку. Дай Бог, каб мы такім чынам вялі справу і далей. Пачынаецца сумесная рэстаўрацыя сядзібы Манюшкі ў Убелі. Мяркуем адрадзіць дом Касцюшкі ў Косаве, працягваць работу над Міцкевічавым шляхам. Дарэчы, вы валодаеце столькімі культурнымі каштоўнасцямі XV, XVI, XVII, XVIII стагоддзяў! Варта назваць касцёл у Нясвіжы, яго фрэскі, касцёл у Глыбокім! Гэта цуд!

**— Але ж тое, што мы закранулі ў нашай размове, толькі частка таго, што робіцца...**

— Безумоўна. Прыгадайма прагляд фільмаў Занусі ў канцы мінулага года. Такога я не назіраў нават у Польшчы, калі на сеансы збіраліся вялікія чэргі. Занусі быў вельмі ўражаны гэтымі сустрэчамі. Яшчэ трэба адзначыць вялікі інтарэс да польскай літаратуры. Ёсць цікавыя пераклады на беларускую мову. Адзначу пераклад вершаў Норвіда — аднаго са складанейшых пострамантычных паэтаў. Маем намер падрыхтаваць новае, трэцяе па ліку, двухмоўнае выданне "Пана Тадэвуша".

**— Які з двух першых перакладаў гэтага выдатнага твора Адама Міцкевіча Вам больш імпануе?**

— Я яшчэ не настолькі добра валодаю беларускай мовай, каб нешта вызначыць. Хоць я старанна вывучаю яе, але — не стае практыкі. Проста не хачу ўжываць беларускую мову, пакуль не навучыўся як след размаўляць, бо засцерагаюся псаваць жахлівай расійска-польска-беларускай сумессю такую прыгожую і мілагучную мову. Для мяне прыкладам з'яўляецца наш пасол пані Эльжбета Смулэк, якая, лічу, цудоўна валодае вашай мовай. У Мінску не многа яшчэ людзей гаворыць па-беларуску. Маім калегам у Львове прасцей, ім даводзіцца размаўляць паўсюль па-ўкраінску. Але ж я заўважыў: за час майго трохгадовага жыцця на Беларусі справа мяняецца — кола людзей, якія ўжываюць паўсядзённа беларускую мову, пашыраецца.

**— Такім чынам, калі глядзець далей, падмурак для развіцця добрасуседскіх адносін закладзены трывалы.**

— Мне здаецца, што культурныя дачыненні ўвогуле з'яўляюцца добрым падмуркам для іншых бакоў супрацоўніцтва. На гэтым узроўні можна распачынаць і весці навуковыя, тэхнічныя кантакты. Тры гады існуе міжурадавая дамоўленасць аб супрацоўніцтве ў галіне навукі. Мы, у прыватнасці, аказалі вашым вучоным-ядзершчыкам пэўную дапамогу — перадалі ўстаноўку, якая сочыць за пострадыяцыйным становішчам на Беларусі. Хацелася б спадзявацца, што карысныя навуковыя кантакты будуць і далей умацоўвацца.



Што яшчэ дадаць? Цікавае ў нас тэатральнае супрацоўніцтва: сябруюць тэатры імя Янкі Купалы і імя Венгеркі з Беластока. Прыемна адзначыць і такі факт: пасля паказу спачатку ў Мінску польскага спектакля "Пакаці-гарошак" ён быў прадстаўлены на веснавым тэатральным фэсце ў Вялікабрытаніі і прызнаны лепшым у Еўропе. Апошнім часам пашыраюцца таксама кантакты ў галіне архівістыкі. Для нас гэта вельмі важна, бо на Беларусі шмат матэрыялаў, якія тычацца 30 — 40-х гадоў. Падчас другой сусветнай вайны шмат людзей згубіла здароўе, жыцці. Сведчанні пра іх ёсць і ў вашых архівах.

**— Мы закранулі тое, што робіцца зараз. А якія перспектывы на будучыню?**

— Я мяркую, што нашае супрацоўніцтва яшчэ больш пашырыцца, набудзе новы імпульс, адкрые новыя магчымасці. Трэба зазначыць, што нашы дзяржаўныя ўстановы шмат робяць для таго, каб забяспечыць магчымасць пастаяннай прысутнасці інфармацыі ў газетах, на тэлебачанні, радыё аб культуры абедзвюх краін. Мы жывем побач і ўсё-ткі малавата ведаем адзін аб адным. Такое становішча (і тут са мной пагодзяцца на Беларусі) трэба выпраўляць. І чым хутчэй, тым лепей. Адзначу, што Польшча дае па спадарожніку дзве свае тэлепраграмы, якія могуць уяўляць цікавасць і для беларускіх гледачоў. Закладзены пачатак паміж польскай і беларускай тэлевізіяй. Спадзяюся, што кантакты і ў гэтай галіне атрымаюць працяг. Лічу таксама плённым і абмен моладдзю, студэнтамі. Зараз у Польшчы навучаецца каля 500 маладых людзей. Атрыманыя веды яны аддадуць на карысць Беларусі.

Увогуле, у Польшчы і Беларусі агульнае і геаграфічнае становішча — праз нашы краіны ідзе транзіт з Заходняй Еўропы ў Расію і наадварот. У вас, дарэчы, зараз наладжваюцца добрыя кантакты з ЗША, Германіяй, Францыяй і іншымі краінамі. Аднак інтарэс да Польшчы застаецца значным. І гэта зразумела. Нас звязвае агульная гісторыя, людзі спрабуюць знайсці свае карані, яны працуюць у архівах і бібліятэках, ствараюць фільмы пра сваю гісторыю...

**— Што за час знаходжання ў нашай краіне Вам спадабалася, а што не надта? Як кажуць, звонку бачна лепей.**

— Скажу пра тое, што спадабалася. Перш за ўсё — ваша цудоўная прырода, і нават не такіх знакамітых месцаў, як Белавежская пушча, Нарач, блакітныя азёры Віцебшчыны, а гэтыя далёкія раўніны з маленькімі звілістымі рэчкамі, дзе надта высока неба, а паўсюль так далёка... І потым, можа Вам гэта падасца дзіўным, невялікая па еўрапейскіх мерках заселенасць тэрыторыі.

**— Чым нашыя народы падобныя і чым, на Ваш погляд, адрозныя?**

— І мы, і вы — славяне. Канешне, мовы нашыя вельмі падобныя. Ёсць шмат блізкага ў рамантызме беларусаў і палякаў. Толькі, мне падаецца, мы прайшлі той перыяд рамантызму, які цяпер характэрны для беларусаў. Вы яшчэ знаходзіцеся ў аўры балад Міцкевіча. І ў гэтым я бачу нешта вельмі сімпатычнае і цёплае.

**— А ці ёсць падабенства ў нашых кухнях?**

— Існуюць і падабенства, і адрозненні. Я на Беларусі, дарэчы, па-сапраўднаму ацаніў смак сала. Адзначыў бы ваш халодны боршч. Вельмі смачны. Ён завецца ў нас "хладнік літэвскі". І цяжка вызначыць — хто правільна гатуе яго: ці то летувісы, ці то палякі, ці то беларусы? Спрабаваў розныя вашы стравы, і яны мне падабаюцца. Толькі, быць можа, на густ паляка, у беларускай кухні недастаткова гародніны.

**— Дзе жыве Ваша сям'я?**

— Жонка, сын і маленькая дачка жывуць разам са мной у Мінску. Жонка працуе таксама ў польскай амбасадзе. Сын вучыцца ў мінскай школе, гэтай восенню пайшоў у восьмы клас.

**— У працэсе Вашай работы Вам даводзіцца, напэўна, знаёміцца не толькі з нашай культурай, але і з гісторыяй?**

— Мне не трэба было адкрываць гісторыю Беларусі, як робяць зараз многія вашыя суайчыннікі (і я толькі вітаю гэта). Вашу гісторыю мы вывучаем са школы як гісторыю старажытнай дзяржавы Ягелонаў, потым Рэчы Паспалітай — аб'яднання ўласна Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Вядома, тут прысутнічае польскі пункт гледжання, але ж факты з гісторыі вашай краіны нам вядомы. Дарэчы, змест падручніка — таксама вельмі цікавае пытанне. Зараз працуе камісія, якая займаецца гэтым. Былі перагледжаны польскія падручнікі гісторыі з улікам прапаноў беларускага боку. У нас падручнікі ўжо падрыхтаваныя, у вас яшчэ не хапае на выданне сродкаў. Але ж першыя крокі насустрач адзін аднаму, да ўзаемаразумення і павагі зроблены. Гэта важна для абедзвюх нашых дзяржаў.

**— Зараз у нас ідзе працэс культурнага адраджэння. Ваш народ таксама прайшоў праз сталенне нацыянальнай самасвядомасці. І ў гэтым наш шлях нечым падобны да польскага.**

— За тры гады ў вас адбыліся значныя якасныя зрухі. Людзі па-іншаму пачынаюць думаць і, як мне падаецца, з большай пашанай ставяцца да нацыянальнай гісторыі і культуры. Гэта нармалёвы шлях, шлях прагрэсу і рэформаў. Але ў нас працэс праходзіў трохі інакш. Наша нацыянальная культура развівалася больш паслядоўна — яна складалася з часткі шляхецкай культуры, часткі гарадской, часткі вясковай. Працэс яе фармавання не перапыняўся. Нам у гэтым сэнсе больш пашанцавала. Мы захавалі аснову сваёй культуры — мову ў агульным карыстанні і ў нейкай ступені ў друку, традыцыю польскай школы. У канцы XIX стагоддзя, калі існаваў падзел Польшчы, ішла барацьба за вучобу на польскай мове, за вывучэнне сваёй гісторыі. Нам было прасцей яшчэ і таму, што мы стварылі ў 1918 годзе сваю дзяржаву. Асноўная частка працы прайшла з 1918 па 1939 год, адбылося канчатковае аб'яднанне нацыі, якая была разбіта на тры часткі — расійскую, прускую і аўстрыйскую. Таму адраджэнне культуры, дзяржавы, увогуле палітычнай думкі мела месца яшчэ ў той перыяд. У гэты працэс, трэба заўважыць, пэўны ўнёсак робіць і характар людзей. У летувісаў, украінцаў традыцыя дзяржаўнасці захаваная больш, у беларусаў менш. Адсюль цяперашнія вашы праблемы — як ставіцца да дзяржавы, куды арыентаваць яе, якой яна павінна быць? Роля культуры ў адраджэнні польскай дзяржавы велізарная. Тое, што рамантыкі сказалі пра дзяржаву на пачатку XIX стагоддзя, калі сфармавалася новая думка, новы від дзяржавы, было выкарыстана ў канцы XIX стагоддзя і вылілася ў стварэнне сучаснай польскай дзяржавы. Вы ідзяце ўласным шляхам. Хацелася б пажадаць вашаму народу ўзяць у дарогу толькі самае патрэбнае — добрае, прыгожае, разумнае, светлае.

**Гутарку вяла**
**Наталля БАДЗІЛОЎСКАЯ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ЗАМЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ

# НА БЕРАГАХ ДАЎГАВЫ — ДЗВІНЫ

***Гісторыя беларусаў у Латвіі мае шматвяковыя карані. Ні з адным з народаў, што жывуць цяпер на тэрыторыі сучаснай Латвіі, латышоў не лучаць такія даўнія повязі, як з беларусамі. У гэтых народаў быў адзіны агульны велізарны арэал, дзе пачынаўся іхні этнагенез. Пра гэта кажуць дадзеныя археалогіі, антрапалогіі, лінгвістыкі, канцэпцыя балцкага субстрата ў беларускім этнасе, які адрознівае яго ад іншых усходніх славян.***

Агульным для абодвух народаў быў водны шлях да Балтыйскага мора, адна лёсавызначальная рака Даўгава-Дзвіна. Адсюль і духоўная блізкасць латышоў Латгаліі і беларусаў, якая адбілася ў дахрысціянскай міфалогіі і фальклоры.

У апошнія стагоддзі латышы і беларусы Латгаліі мелі прыкладна аднолькавы сацыяльны стан: яны былі пераважна сялянамі, цярпелі ад сацыяльнага прыгнёту з боку польскіх паноў. Небяспека апалячвання або русіфікацыі пагражала і латышам, і беларусам. У гарадах Латгаліі ( як зрэшты і Беларусі) гэтыя народы вельмі доўга амаль не былі прадстаўленыя: там жылі маючыя іншы сацыяльны статус габрэі, палякі, рускія.

Этнакультурнае асяроддзе ўсходняй часткі Латвіі — Латгаліі, стракаты этнічны склад і наяўнасць некалькіх канфесій наклалі адметны адбітак на самасвядомасць і ўзаемастасункі прадстаўнікоў усіх этнічных груповак гэтага рэгіёна, які месціцца на стыку балцкага і славянскага арэалаў. Тут адбывалася ўзаемная асіміляцыя па ўсіх напрамках, ход якой часта вызначалі не этнічныя прыхільнасці, а гістарычныя перыпетыі, адміністрацыйны ўціск, канфесійная прыналежнасць.

Аб поспехах культурна-асветнай дзейнасці беларусаў у Латвійскай Рэспубліцы 20 — 30-х гадоў красамоўна сведчаць наступныя факты. Раней на тэрыторыі Латгаліі (да 1917 г. яна ўваходзіла ў склад Віцебскай губерні), як і ў самой Беларусі, беларускіх школ не было. У Латвіі яны пачалі ўтварацца з 1921 года (у лепшыя гады іх было каля 40). Да таго ж функцыянавалі дзве беларускія гімназіі — у Даўгаўпілсе (Дзвінску) і Лудзе. Пэўны час дзейнічалі таксама двухгадовыя настаўніцкія курсы.

Беларуская інтэлігенцыя здолела стварыць шэраг культурна-асветных, грамадскіх і нават гаспадарчых (кааператывы) структур, якія актывізавалі беларускае насельніцтва Латгаліі. Першай з іх была суполка "Бацькаўшчына" ў Даўгаўпілсе, створаная ў 1921 годзе настаўнікам Янам Харлапам пры падтрымцы Яна Райніса. Менавіта гэтая суполка пачала сплочваць беларускую інтэлігенцыю, наладзіла працу першых школ. Потым функцыянавалі іншыя таварыствы: "Беларуская хата", "Рунь", "Араты", таварыства беларускай моладзі. Дзейнічалі беларускія бібліятэкі, дзіцячыя садкі пры школах, беларускія выдавецтвы. Выходзілі кнігі К.Езавітава і іншых аўтараў, газета "Голас беларуса", часопісы "Беларускае жыцьцё", "Школа і жыцьцё". Часопіс "Беларуская школа ў Латвіі", які на працягу некалькіх гадоў (1926 — 1933 гг.) рэдагаваў К.Езавітаў, можна назваць хронікай жыцця латвійскіх беларусаў тых дзесяцігоддзяў.

У драматычных гуртках пры летніх курсах беларускіх настаўнікаў узгадаваліся свае акцёры і рэжысёры. У 1928 годзе дзейнічалі ўжо два беларускія тэатры — у Рызе і Даўгаўпілсе. Беларускаму народнаму тэатру ў Рызе дапамаглі дзяржаўныя ўстановы Латвійскай Рэспублікі, Культурны Фонд, рускі тэатр і габрэйскі Рабочы тэатр. Да 1932 года ў рэпертуары тэатра было 10 пастановак — у асноўным класіка. Адначасова ішлі п"есы Янкі Купалы, Марка Твэна і Рудольфа Блаўмана. Даўгаўпілскі тэатр арыентаваўся на музычныя пастаноўкі этнаграфічнага плана. Яркай падзеяй у жыцці беларусаў Латвіі былі дні беларускай культуры ў Латгаліі ў 1929 годзе — у аддаленыя ад цэнтраў воласці і вёскі Латгаліі, дзе жылі беларусы, прыязджалі лектары (С.Сахараў, К.Езавітаў, М.Дзямідаў і інш.), ставіліся п'есы, гучалі беларускія песні і вершы. Мяркуючы па водгуках у друку, у школах збіраліся па 100-300 зацікаўленых гледачоў. Несумненным вынікам культурна-асветніцкай працы было павышэнне пісьменнасці беларускіх сялян. Паводле звестак К.Езавітава і М.Скуеніека на пачатку 20-х гадоў сярод беларусаў было шмат непісьменных. Школы на роднай беларускай мове дапамагалі культурнаму росту: у 1935 годзе пісьменных беларусаў было 55 працэнтаў (сярод рускіх — 50 працэнтаў), а пісьменных мужчын-беларусаў нават 67 працэнтаў.



Узлёт беларускай культуры ў Латвіі ў гады Латвійскай Рэспублікі можа падацца цудам — чымсьці нечаканым і цяжка вытлумачальным. Адкуль узяліся беларускія нацыянальныя сілы для такога рыўка — без закладзеных раней традыцый, гатовай інфраструктуры, без яўных перадумоваў? Багатае культурнае жыццё такіх нацыянальных меншасцяў Латвіі, як немцы, палякі, габрэі, рускія, тлумачыцца іх гісторыяй. А беларусы, абсалютную большасць якіх (82 працэнты — па некаторых падліках) складалі бедныя латгальскія сяляне? І ўсё ж парадокса тут няма.

У другой палове XIX стагоддзя пачаўся няспынны працэс нацыянальна-культурнага абуджэння беларусаў (як і іншых прыгнечаных, непаўнапраўных народаў Усходняй Еўропы — балгар, украінцаў, латышоў, эстонцаў і г.д.). Барацьба беларусаў за нацыянальную незалежнасць у 1917-1919 гг., а таксама своеасаблівы зігзаг у гісторыі савецкай нацыянальнай палітыкі ў 20-х гадах ("беларусізацыя") стымулявалі развіццё нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэты працэс не мог не паўплываць і на беларусаў, што жылі па-за самой Беларуссю.

Палітычныя ўмовы і маральны клімат у Латвійскай Рэспубліцы да перавароту К.Ульманіса ў 1934 годзе спрыялі ўздыму культуры нацыянальных меншасцяў Латвіі, якія складалі чвэрць яе насельніцтва, а ў Латгаліі — нават палову. У парламенцкай дэмакратычнай дзяржаве былі прынятыя вельмі ліберальныя законы аб грамадзянстве, аб нацыянальных школах. Напрыклад, закон аб нацыянальных школах, прыняты 8 снежня 1919 года Народным Саветам, абвяшчаў, што ў Латвіі пры падтрымцы дзяржавы будзе створана столькі і такіх нацыянальных школ, колькі спатрэбіцца нацыянальным меншасцям.

Усе беларусы Латвіі (96,8 працэнта) былі грамадзянамі і мелі палітычныя правы. Праўда, іх палітычная актыўнасць была нізкай (як, зрэшты, і ў рускіх, большасць якіх таксама складалі сяляне Латгаліі). Яны не маглі разлічваць на сваю фракцыю ў Сейме (як габрэі і немцы), не маглі разлічваць і на падтрымку іншых нацыянальных партыяў. Прадстаўнікі рускай і польскай фракцый у Сейме выступалі супраць стварэння беларускіх школ у Латвіі, затое паслядоўна абаранялі іх інтарэсы дэпутаты -- сацыял-дэмакраты, у асаблівасці Ян Райніс. Працэс супраць беларускіх настаўнікаў у 1924-1925 гг. (абвінавачванне групы настаўнікаў у дзяржаўнай здрадзе, надалей цалкам знятае) не адлюстроўваў, аднак, агульнай атмасферы ў краіне, ён відавочна быў зламыснай інтрыгай правых сіл. Усё ж гэта была маральная траўма і ўдар па беларускіх культурных пачынаннях. Пасля працэсу стала змяншацца колькасць беларускіх школ. Калі казаць пра галоўны накірунак перыяду, то гэта была рэальна дзеючая мадэль культурна-нацыянальнай аўтаноміі, якая забяспечвала дзяржаўныя субсідыі, падтрымку мясцовых улад і стымулявала ініцыятыву нацыянальнай інтэлігенцыі.

Адносна спрыяльнае стаўленне да нацыянальнай культуры ў Савецкай Беларусі 20-х гг. адбівалася на старонках беларускага друку Латвіі ў выглядзе нейтральнай інфармацыі аб тэатральным жыцці Мінска, навінках літаратуры, навуковага жыцця — без палітычнага падтэксту, але з несумненным гонарам за поспехі беларускай культуры. Адзначым, што і латышы на Беларусі (каля 15 тысяч) да 1937 года мелі свае нацыянальныя школы ў месцах кампактнага пражывання, сваё нацыянальна-культурнае жыццё.

Сітуацыю рэзка змянілі падзеі сусветнага маштабу, якія папярэднічалі другой сусветнай вайне: умацаванне таталітарных сістэм (гітлерызму ў Нямеччыне і сталінізму ў СССР), узмацненне жорсткасці палітычных рэжымаў амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах, у тым ліку і ў Латвіі пасля 1934 года.

Нарэшце, найважнейшая прычына, якая тлумачыць уздым беларускага нацыянальнага жыцця ў Латвіі,— цэлая плеяда зацікаўленых, энергічных, інтэлігентных людзей. Цэнтральнай постаццю быў Настаўнік, беларускі настаўнік — ён жа і стваральнік хароў, драматычных гурткоў, часопісаў, аўтар артыкулаў і кніг. Ужо ў 1921 годзе на самых першых курсах беларускіх настаўнікаў вучыліся 73 чалавекі, і ўвосень пачалі дзейнічаць 16 беларускіх школ.

Напачатку перашкодай для атрымання вышэйшай адукацыі ў Латвіі магло быць слабое веданне дзяржаўнай мовы. У Празе і Вільні былі заснаваны стыпендыі для беларускай моладзі. Тыя, хто атрымаў там вышэйшую адукацыю, вярталіся назад у Латгалію. У кожным з культурных таварыстваў было 150 — 200 актывістаў. У шэрагах беларускай інтэлігенцыі былі прафесійныя мастакі, паэты (аб'яднанне беларускіх паэтаў налічвала каля 20 беларускіх літаратараў).

Відавочна, што такія яркія постаці нацыянальнага адраджэння, як Сяргей Сахараў, Кастусь Езавітаў, Мікола Дзямідаў ды інш., не былі адзіночкамі, што ў іх было шмат аднадумцаў і паплечнікаў.

Сяргей Сахараў нарадзіўся ў Полацку, у 1880 годзе, але сваім родным горадам лічыў светлае латгальскае мястэчка Лудзу, дзе доўгія гады жыла ягоная сям'я, а ён настаўнічаў. Маючы дзве вышэйшыя адукацыі — духоўную і юрыдычную, гэты таленавіты чалавек быў лектарам, аўтарам кніг па гісторыі Лудзы, настаўнікам у Лудзе і Даўгаўпілсе, арганізатарам беларускай асветы. На працягу сямі гадоў ён быў дырэктарам Даўгаўпілскай беларускай гімназіі і пэўны час узначальваў беларускую Раду міністэрства асветы Латвійскай Рэспублікі.

Пасля сыходу з пасады дырэктара гімназіі ўсе свае сілы прысвяціў збіранню і сістэматызацыі беларускага фальклору ў Латгаліі. Менавіта як этнограф і фальклорыст ён найлепш вядомы на Беларусі і займае трывалае месца ў гісторыі культуры абедзвюх краін. Сабраныя ім калекцыі беларускага фальклору захоўваюцца ў Акадэміях навук Латвіі і Беларусі.

Уражвае шматграннасць дзейнасці гэтых людзей. Кастусь Езавітаў таксама быў настаўнікам, рэдактарам часопіса, аўтарам вершаў і кніг па гісторыі беларускай школы. Галоўным унутраным стрыжнем вялікай працы беларускай інтэлігенцыі Латвіі ў 20 — 30-я гады была вера ў будучыню беларускага народа, у магчымасць развіцця беларускай культуры за межамі Айчыны.

23 красавіка 1994 года ў Рызе, у сядзібе Асацыяцыі нацыянальна-культурных таварыстваў Латвіі (АНКТЛ) адзначаліся адначасова юбілей Сяргея Сахарава і пяцігоддзе стварэння культурна-асветнага тварыства беларусаў Латвіі "Світанак". Апошнія пяць гадоў былі пазначаны не толькі аднаўленнем незалежнай Латвійскай дзяржавы і нацыянальным адраджэннем латышоў, але і адраджэннем нацыянальных меншасцяў у краіне, асабліва тых, якія, як беларусы, маюць гістарычныя карані ў Латвіі. Беларускай інтэлігенцыі — ядру таварыства "Світанак", даводзіцца пераадольваць немалыя перашкоды: недасканаласць заканадаўства, а таксама нацыянальны нігілізм у свядомасці многіх беларусаў —жыхароў Латвіі.

І ўсё ж такі перспектывы беларускай супольнасці Латвіі ўяўляюцца светлымі, калі ўлічыць, што яна мае свае карані ў Латгаліі, анклавы, дзе можна наладзіць сваё культурнае жыццё. Беларуская інтэлігенцыя, актывісты суполак "Світанак" і "Прамень" працуюць дзеля таго, каб беларусы Латвіі здолелі набыць сваё нацыянальнае аблічча. Досвед 20-х гадоў, досвед беларускага адраджэння ў Латвійскай Рэспубліцы можа дапамагчы ў галоўным: нацыянальным выхаванні дзяцей і падлеткаў, абуджэнні нацыянальнай самасвядомасці.

**Ілге АПІНЕ**

Рыга

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

*У мэтах дзяржаўнай падтрымкі дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі, захавання і развіцця культурнага патэнцыялу ўрад рэспублікі прыняў Пастанову аб устанаўленні дзяржаўных стыпендый дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі Рэспублікі Беларусь.*

## ПАЛАЖЭННЕ
### аб прысуджэнні стыпендый дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі Рэспублікі Беларусь

1. Дзяржаўныя стыпендыі ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь з мэтай забеспячэння дзяржаўнай падтрымкі дзеячаў культуры і мастацтва, захавання і развіцця культурнага патэнцыялу Рэспублікі Беларусь.

2. Дзяржаўныя стыпендыі прысуджаюцца дзеячам культуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, журналістыкі, тэатральнага, музычнага, выяўленчага мастацтва і кіно на ажыццяўленне творчага праекта.

3. Дзяржаўныя стыпендыі прысуджаюцца па выніках творчай дзейнасці ў дзвюх групах:

— таленавітым маладым дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце да 40 гадоў, якія пасляхова скончылі творчыя ВНУ;

— вядомым майстрам літаратуры, тэатральнага, музычнага, выяўленчага мастацтва і кіно ва ўзросце звыш 40 гадоў, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё беларускай культуры і мастацтва.

4. Дзяржаўныя стыпендыі прысуджаюцца тэрмінам на 1 год.

5. Дзяржаўныя стыпендыі ўстанаўліваюцца ў колькасці 25 выплат па кожнай групе ў памерах адпаведна 4 і 6 мінімальных заработных плат штомесячна.

6. Прэтэндэнты на дзяржаўныя стыпендыі павінны падаць у Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь заяўку з наступным наборам дакументаў:

— пісьмовае хадайніцтва з прадстаўленнем праекта твора, на ажыццяўленне якога выдаецца стыпендыя;

— рэкамендацыю праўлення творчага саюза, членам якога яны з'яўляюцца, альбо хадайніцтва за подпісам трох вядомых дзеячаў мастацтва;

— творчую біяграфію;

— спіс творчых прац і заслуг.

7. Заяўкі на дзяржаўныя стыпендыі падаюцца да 1 кастрычніка Камісіі па прысуджэнні дзяржаўных стыпендый Міністэрства культуры і друку. Камісія мае права запатрабаваць, у выпадку неабходнасці, дадатковую інфармацыю.

8. Камісія па прысуджэнні дзяржаўных стыпендый дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі Рэспублікі Беларусь прызначаецца загадам Міністра культуры і друку.

9. Рашэнне аб прысуджэнні дзяржаўных стыпендый дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі Рэспублікі Беларусь прымаецца большасцю галасоў. Пры роўнасці галасоў перавага аддаецца голасу старшыні камісіі.

10. Камісія выносіць рашэнне да 1 снежня.

11. Фінансаванне дзяржаўных стыпендый праводзіцца за кошт сродкаў, якія выдзяляюцца Міністэрствам фінансаў на гэтыя мэты.

ВОДГУЛЛЕ

# МЕТАМАРФОЗА, або У ПОШУКАХ ЧЫСТАЙ "КРЫНІЦЫ"

***Сталы і ўважлівы чытач нашай газеты, пэўна, памятае адкрыты ліст да Старшыні Савета Міністраў ("Культура" № 7, 1993 г.), падпісаны вядомымі дзеячамі культуры і мастацтва, дзе ішла гаворка пра наспелую неабходнасць стварэння літаратурна-філасофскага часопіса, "на падставе якога можна было б актуалізаваць нацыянальны вопыт сэнсатворнай духоўнай дзейнасці і гэтым спрыяць вылучэнню з агульнага інтэлектуальнага зместу нацыянальнай філасофіі і культуралогіі". Там жа прапаноўвалася наступнае: "Зважаючы на тое, што газета "Культура" — адзінае на Беларусі выданне, якое з першага свайго нумара паслядоўна і мэтанакіравана працуе ў гэтым накірунку (штотыднёвыя філасофскія старонкі "Эліта" і "Суплёт ідэй"), падаецца мэтазгодным менавіта пры ёй стварыць літаратурна-філасофскі дадатак у форме часопіса".***

***Калектыў газеты разам з ініцыятыўнай групай паклалі тады шмат намаганняў, каб гэтая справа ўнаявілася, — толькі ў самы апошні момант, калі намеснікам Старшыні Савета Міністраў быў ужо выдадзены загад аб падрыхтоўцы да практычнай рэалізацыі ідэі, нешта не заладзілася з усіх бакоў...***

***Адным словам, з часопісам не атрымалася, але сама задума, хай і абмежаваная зместам, была здзейснена нашай газетай у літаратурна-філасофскім сшытку "ЗНО", які распачаў паслядоўную і мэтанакіраваную "каланізацыю" культуралагічнай прасторы... Таму зусім натуральна, што мы не можам прамінуць увагай выхад да чытача першага на Беларусі культуралагічнага часопіса (пакуль ён захоўвае назву былога масавага літаратурна-мастацкага выдання "Крыніца"). З гэтай нагоды некалькі пытанняў галоўнаму рэдактару Уладзіміру Някляеву:***




**— Спадар Някляеў, як сталася, што часопіс "Крыніца", разлічаны на масавую, не лішне пераборлівую аўдыторыю раптам (ці раптам?) вырашыў карэнным чынам змяніць сваю арыентацыю і звярнуцца да праблематыкі, якая патрабуе адмыслова падрыхтаванага чытача?**

— Адна мая знаёмая адказала б: так сталася, бо гістарычна склалася. Адказ універсальны, але некага ён можа і не задаволіць.

Рэдакцыя "Крыніцы" сфармавалася ў 1988 годзе. Вызначэнне "масавы" ў дачыненні да перыядычнага выдання не ўяўлялася нам выключна негатыўным. Мы паставілі сабе на мэце зрабіць масавы часопіс — і, хоць яно было не проста, зрабілі яго, займеўшы за паўтара гады паўмільёна падпісчыкаў. Далей шляху ў колькасць не было.

Сярод масавага чытача мы спадзяваліся вышукаць і стварыць чытача свайго. Гэта была якасная задача, працяглая ў часе, але час рассыпаўся. Тым не менш з тых паўмільёна, што ў нас былі, колькі тысяч засталося з намі. Сёння яны — падпісчыкі адноўленай "Крыніцы", іншых пакуль не займелася. Толькі дакладна ведаючы, што яны знойдзены намі, ёсць і застануцца, можна было рызыкаваць і змяняць канцэпцыю часопіса. Зараз ён прыблізна такі, якім мроіўся напачатку. Так што для мяне асабіста знянацкага нічога не адбылося, раптоўнага не сталася.

**— Чым фармальна і сутнасна новая "Крыніца" адрозніваецца ад іншых беларускіх часопісаў?**

— Фармальна тым, што назапашана ў "Крыніцы". Мы захавалі той фармат, які дазваляе раскавана пачуваць сябе і мастаку, і тэхнічнаму рэдактару, што ствараюць пазатэкставую прастору часопіса. Заўважу, гэта вельмі істотная рэч, якой традыцыйныя выданні не надаюць асаблівага значэння — і дарма. Мяркую, духам раскаванасці прадыктаваныя і далёкія ад традыцыйных займеннікавыя рубрыкі часопіса, дзе спалучаюцца і фармальнае, і сутнаснае, якое пераважае, бо менавіта ЯНЫ, ЁН, МЫ, Я і г.д. — аўтары не толькі тэкстаў, але і сутнасці. Яна не ўзнікае сама па сабе — і мы акцэнтуем, засяроджваем увагу найперш на стваральніках, на постацях.

**— У першым нумары ў якасці аўтараў і "герояў" выступаюць Кірыла Тураўскі, Міхаіл Бахцін, Франсуа Рабле, Сэмуэл Бэкет, Алесь Разанаў, Стыг Дагерман, Алесь Асташонак, Юрка Віцьбіч, Галіна Булыка, Георгій Колас... Чаму менавіта з іх распачала свой шлях да чытача новая "Крыніца"?**

— З выхадам у свет адноўленай "Крыніцы" найбольш пытанняў пачулі мы якраз па адборы аўтараў: чаму той, а не гэны, з чаго тая, а не гэтая... Не знойдзеш тут адказу, бо калі "гэтую" замяніць на "тую", дык усё адно пытанне застанецца. Проста з некага трэба было пачынаць. Зноў жа: так гістарычна склалася.

Пракідваецца ў гэтых пытаннях і падтэкставае: "а чаму не я?". Значыць, людства нешта адчула. З гэтага вынікае, што прынцыпова мы не памыліліся, што спроба трансфармацыі часопіса, здаецца, удалася.

**— Напрыканцы традыцыйнае ў такіх выпадках пытанне: "хто" нас чакае ў бліжэйшых нумарах?**

— Іх многа, усіх не пералічыш, а на падыходзе яшчэ і яшчэ... Згадаю адно колькі: Вацлаў Ластоўскі, Фрыдрых Ніцшэ, Анатоль Вярцінскі, Вінцук Мудроў, Альбэр Камю, Міхась Стральцоў, "Слова пра паход Ігаравы", Томас Ман, Мікола Купрэеў, Гільдэрод, Герман Гесэ, "Сказ пра Лысую гару", Антанэн Арто, Акутагава, Басё...

**— Дзякуй! Плёну і спагадлівага лёсу новай "Крыніцы".**

**Наш кар.**

---

# ГЭТЫ НЕПАХІСНЫ "ТАІП"




Відаць, не варта пераконваць кагосьці, што з усіх мастацтваў для нас найважнейшым з'яўляецца... тэлебачанне. Самай маладой, сучаснай музе мы ахвяруем сваю прыхільнасць і львіную долю вольнага часу. А час, як вядома, — грошы. Дык за што мы яе, ненажэрную, гэтак шануем? Хіба за маладосць і лёгкасць, весялосць і дасціпнасць? Чытач, напэўна, пасміхаецца ўжо і падказвае: "За даступнасць!" Уключыў "яшчык", сядзі і глядзі. Глядзі тое самае, што і год, два і тры таму. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова зазірнуць у праграму БТ. Назвы, рубрыкі — на тым жа месцы ў той жа час!.. Нязменны слоўнік, адны і тыя ж твары. (Наконт слоўніка, ці, дакладней, лексікі БТ, якая дужа бедная, — размова асобная. А пакуль што — пра змест некаторых перадач, якія па думках і паняццях на працягу дзесяцігоддзяў застаюцца нязменнымі.)

Калі меркаваць па многіх перадачах БТ, то ніякіх змен у нашым палітычным і сацыяльным жыцці не адбылося і не адбываецца. (А мо вуснамі БТ гаворыць ісціна?)

Часам здаецца, што наша тэлебачанне — нейкая замкнёная сістэма, якая працуе па састарэлых тэхналогіях і арыентуецца на гледача, які нічога, акрамя БТ, не глядзіць, нічога не чытае і нават не чуе. А ўяўленні яго аб навакольным свеце — на ўзроўні пяцікласніка-двоечніка.

Дзякуй Богу, існуе Беларускае радыё! Яно і пашырае гарызонты грамадзян Рэспублікі Беларусь, і робіць гэта штодня і доказна. Узяць хоць бы такія цікавыя і актуальныя праграмы, як "Апоўдні", "Радыёфакт" (хоць, на жаль, ён апошнім часам зрабіўся менш вострым, менш насычаным інфармацыяй), "Дзелавы веснік", "Цяжкі панядзелак" (перадача для падлеткаў). Нават "Музычны канал", акрамя добрай музыкі, прапануе чытачам цікавыя дыялогі па самых розных пытаннях нашага жыцця.

Не хапае, бадай, вострай маладзёжнай праграмы, накшталт "Беларускай маладзёжнай", разам з якой з эфіру знікла самая сучасная, як па мове, так і па мысленні, і па інтанацыі, гаворка. На яе месцы нядаўна з'явілася новая праграма — "Для тых, хто дома". Яна, безумоўна, цікавая, асабліва для жанчын, але замяніць сваю папярэдніцу ўсё ж не здолела. ... Бо тут, як той казаў, памянялі "быка на індыка".

Як бы слухач ні засумаваў па "дому і сям'і", па "парадах на кожны дзень", але прыватнае жыццё не можа выцісніць цікавасць чалавека да жыцця грамадскага. Маецца на ўвазе не тая звышпалітызаванасць, а працей — палітычная балбатня, якая даўно ўжо абрыдла, а размова аб самым важным у палітычным і сацыяльным жыцці, размова, якая дапамагала б слухачу зразумець, што дзеецца ў краіне, дапамагала б самаўсведамленню, якога нам, беларусам, не хапае.

Ды вернемся да тэлеперадач. Пра іх даўно ўжо ніхто не пісаў і не гаварыў, не хваліў і не лаяў, бо, як было ўжо заўважана, няма прадмета для гаворкі. Шэрасць — яна безаблічная. Воку няма за што зачапіцца — і воку, і думцы. Перадачы БТ часам нагадваюць анекдот пра таго "двоечніка", які не заняў бы першага месца нават на конкурсе самых дрэнных вучняў. Аднак на БТ маўчанне крытыкі нікога, відаць, не хвалюе: абы ціха! Ужо і глядач не абураецца. Як у той чарзе, дзе людзі стаміліся абурацца і ўсё цярпяць моўчкі. Ды, зрэшты, ці адным тэлебачаннем жыве чалавек?

Аднак інфармацыю ад тэлебачання ён атрымліваць павінен, — хай сабе не стае сіл і сродкаў на іншае. Праўда, у тым, што тычыцца інфармацыі, формаў яе падачы і актуальнасці, то тут апошнім часам нейкае ледзь прыкметнае варушэнне можна было заўважыць. Гэта супала з пераменай (у каторы раз?) назвы нашага тэлебачання (зноў не Белдзяржтэлерадыё, а Нацыянальная тэлерадыёкампанія).

Зрухі, аб якіх мы сказалі, тычацца перш за ўсё інфармацыйнай праграмы "Панарама", якая вось ужо некалькі гадоў выклікае асацыяцыю з нейкім жалезабетонным збудаваннем пад малагучнай абрэвіятурай "Таіп". Слова, нібы для глухіх створанае, як, між іншым, і музычная застаўка да гэтай перадачы. На жаль, галоўная інфармацыйная праграма БТ не вызначаецца не толькі музычным, але і адметным мастацкім афармленнем. Выяву хаатычнай мітусні геаметрычных фігур, якая папярэднічае паяўленню на экране вядучага, цяжка назваць мастацкай знаходкай! Як і фірменны знак, што нагадвае ці то нейкі невядомы ордэн невядомай дзяржавы, ці то кабалістычны знак. Што гэта такое, зразумела, відаць, адным стваральнікам гэтай "эмблемы". Але, вядома, галоўныя прэтэнзіі да зместу праграмы.

Асноўнай падзеяй дня нядаўна лічылася і падавалася геаграфічнае перамяшчэнне па краіне былога прэм'ера ўрада. Нездарма гледачы ахрысцілі "Панараму" прыдворнай перадачай. Да "асноўнай" падзеі прышпільваліся некалькі падзей абласнога і раённага маштабу — аб рабоце той ці іншай калгаснай фермы, аддаленага дома культуры, аб пажарнай ахове і абавязковы рэпартаж з мастацкай выставы ў Мінску. Нібы грамадзян Беларусі больш за ўсё цікавіць жывапіс!.. Нядаўна да абавязковых сюжэтаў "жывапіснага" кшталту дабавіліся не менш абавязковыя рэпартажы з камерцыйных выстаў розных тавараў.

Гадамі праграма не закранала эканамічных праблем, не ўжываліся нават тэрміны новага часу — "прыватызацыя", "інфляцыя", "маркетынг" і г.д. Работнікі тэлебачання нібы паставілі сабе за правіла эканоміку і ўсё, што з ёю звязана, не чапаць: хай людзі даведваюцца пра гэта з іншых крыніц.

І вось апошнім часам у "Панараме" сталі паяўляцца сюжэты на эканамічныя тэмы. Больш жывой і рухомай зрабілася вёрстка "Панарамы", а журналісты, якія раней заглядалі толькі ва ўрадавыя паверхі, у "калідоры ўлады", зрэдку сталі наведваць гандлёвую залу крамы, судовыя пасяджэнні, стыхійныя кірмашы, якія, што грыбы, растуць у гарадскіх мікраёнах. Хоць, вядома, гэта яшчэ далёка не размова аб эканоміцы і яе праблемах. Словам, глядач, акрамя паведамленняў гідраметцэнтра, дзеля якіх ён часам і глядзеў праграму, пачаў атрымліваць нейкую інфармацыю аб штодзённым жыцці.

На жаль, у рэдакцыі не знайшлося журналіста, які талкова расказваў бы пра актуальныя эканамічныя праблемы, таму сюды запрашаюць вядучую тэлекампаніі "ФІТ" Тацяну Сокаву, якая спачатку выдае сюжэт у фітаўскай праграме "Эканамікст", а ў "Панараме" гэты сюжэт толькі паўтараецца, прычым у той жа дзень. Так бы мовіць — інфармацыя не першай свежасці? Праўда, вядучая — і гэта робіць ёй гонар — не надакучвае. Дакладнымі фармулёўкамі, добрай мовай, адпаведнай дзелавой інтанацыяй Тацяна Сокава здольная ўпрыгожыць абедзве праграмы. Але ж яна "фітаўка", а сваіх вядучых з такім жа прафесійным узроўнем у "Панараме" няма. Хоць нядаўна тут адбылася чарговая "перамена месцаў". Журналісты зноў пераселі ў крэслы дыктараў-вядучых. Ды, як вядома, ад перамены месцаў вынік не мяняецца...

Цікава, што новыя людзі — новыя вядучыя, каментатары — паяўляюцца (у перадачах незалежных тэлекампаній — "Праспект", "Свой круг","Надвор'е"). Дзеля справядлівасці скажам, што і некаторыя з гэтых перадач з першых крокаў заштампаваліся не горш за "Таіп".

Найбольш сур'ёзна заявілі аб сабе аўтары "Праспекта" (тэлекампанія "ФІТ"), перадачы, якая будуецца на аналізе актуальных праблем палітыкі і эканомікі. Калі накірунак "Праспекта" не збочыць у зацішак і надалей будзе весці вострую, не зважаючы на асобы і рангі, размову, ён, безумоўна, заваюе шырокае кола гледачоў. Аднак гэтая, цалкам рускамоўная (між іншым, з беларускім акцэнтам вядучага) праграма справакавала на адно пытанне: у адной вераснёўскай праграме вядучы "Праспекта" П.Шарамет задае пытанне прэзідэнту А.Р.Лукашэнку: "Якой будзе ідэалогія прэзідэнта, калі ён выступае супраць беларусізацыі?" Вось і хацелася б, каб стваральнікі перадачы адказалі на гэтае пытанне самі і выявілі сваю ідэалогію, сваю пазіцыю. Тады б з'явілася магчымасць стаць па-за канкурэнцыяй у дачыненні да іншых перадач БТ. І стварыць прэцэдэнт, які даў бы штуршок той жа "Панараме" — выказацца ясна, смела і дакладна.

Журналістам "Панарамы" не хапае не толькі смеласці, не толькі ўмення падаць інфармацыю, але часам і прафесійнай адказнасці. Напрыклад, выклікае недавер перадача, у якой журналіст "памыляецца" не толькі ў словах, але і ў адносінах да лічбаў. Нядаўна, скажам, нам паведамілі, што насельніцтва Кіргізіі складае 14 мільёнаў чалавек, што мінімальная зарплата ў Расіі — 40 тысяч рублёў, прычым не мімаходзь, а настойліва, падкрэсліваючы, што мінімальная зарплата ў Расіі ў чатыры разы вышэй, чым у нас. Але ж гледачы ведаюць (між іншым, з іншых крыніц), што мінімальная зарплата ў Расіі — 20 тысяч, а ў Кіргізіі жыве каля 4-х мільёнаў чалавек (!).

Некалькі слоў пра афармленне перадачы. Як правіла, перадачы незалежных кампаній вызначаюцца больш прафесійным мастацкім афармленнем. Тут і камп'ютэрная графіка, мультыплікацыя, фірмовыя знакі, — усё, што патрэбна. "Панарама" ж — ніжэй любой крытыкі. І тут мне запярэчаць: добра "незалежнікам", у іх і грошы, і тэхнічныя сродкі, і кадры. Але хіба патрэбны грошы для таго, каб адмовіцца ад безгустоўшчыны? Знайшоўся ж чалавек, які здагадаўся прыбраць з экрана выяву тэлевізара, што "скакаў" і "куляўся" пад гукі літаўраў, перад спартыўнай старонкай праграмы. На маю думку, гэтую "знаходку" проста шкодна было бачыць — шкодна для здароўя.

Мо, варта выкінуць і старую "шапку" "Панарамы" — галоўнай праграмы дня, якой пачынаецца і завяршаецца тэлевізійнае вяшчанне БТ?

**Рэгіна БАКУНОВІЧ**

# ТЭЛЕБАЧАННЕ

## Серада, 14 верасня

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.50. "Фарбы зямлі роднай". Кінанарыс.
9.00. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. "У свеце казкі".
9.25. "Маё каханне, мой смутак".
10.25. Аэробіка.
10.55. "Скарга". Маст. фільм.
12.10. Літарынка.
12.45. "Вожык, сабака і хлопчык Ніко". Мультфільм.
13.00. "Бімбат". "Флюгер, альбо Куды вецер дзьме".
13.20. "Людзі на балоце. Палеская хроніка". 5-я і 6-я серыі.
15.40. Відзьма-нявідзьма.
16.40. "Еўрапейскі калейдаскоп".
17.10. "Бімбат". У студыі ўрач-сексапатолаг У.Дамарацкі. Прамая лінія.
17.30. Навіны (з сурдаперакладам).
17.40. "Вяртанне ў легенду".Фільм-канцэрт.
18.10. Абласныя навіны (Гомель).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. "Пяць зорак". Тэлегульня.
20.10. "Спадарожнік ікры". Мультфільм для дарослых.
20.20. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.30. Трыбуна прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.
22.15. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
23.15. Пад купалам Сусвету.
23.25. НІКа.
23.40. Надвор'е.

### Канал "Астанкіна"

5.30. Раніца.
7.00, 10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.20. Навіны.
7.15. "Раніца".
8.00. Расійскі дайджэст.
8.15. "Сем дзён з Морсі". Мультфільм.
8.30. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
8.55. Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
9.45. Дзелавы веснік.
15.25. "Вайна гобатаў".
15.50. На балі ў Папялушкі.
16.05. "Лятаючы дом". Мультсерыял.
16.40. Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25. Свет сёння.
17.40. Тэхнадром.
17.50, 20.35. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
18.55. Кінапанарама.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. "Апошні паклон". Інакенцій Смактуноўскі.
21.20. Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Дынама" (Кіеў) — "Спартак" (Масква).
23.30. Футбол. Ліга чэмпіёнаў. Агляд.
0.30. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
6.20. Патрабуюцца...
6.30. Формула-730.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. "Снеданне для чэмпіёнаў".
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. "Санта-Барбара".
9.15. Кліп-антракт. Л.Партной.
9.20. "Дом Раманавых".Дак.фільм.1-я серыя.
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. "Сонца, музыка, Францыя". 2-я частка.
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія. Далёкі Усход.
16.50. М-трэст.
17.05. Казкі для бацькоў.
17.35. Свята кожны дзень.
17.45. Экспацэнтр прадстаўляе.
17.50. Звычайная справа.
18.05. L-клуб.
18.50. Пяць хвілін аб добрым жыцці.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Ніхто не забыты.
20.30. Сам сабе рэжысёр.
21.05. На палітычным Алімпе.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Экран крымінальных паведамленняў.
22.45. Новы ілюзіён. "У прыцемках, у адзіноце".

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы". Тэлесерыял.
14.45. "СЭР". Маст. фільм.
16.00. Казкі паўночных рэк.
16.25. "Тайна цацак". Мультфільм.
16.35. Урок нямецкай мовы.
16.50. "Ласяня", "Дзілі-Далі ў Мурчынпарку". Мультфільмы.
17.20. "Хто сёння адсутнічае". Маст. фільм.
18.10. Вялікі фестываль.
18.50. Спорт, спорт, спорт...
19.05. "Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы".
20.05. Блеф-клуб.
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. "Падсякай". Перадача для рыбаловаў.
21.10. Музычны момант.
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Будні.
22.00. Спартыўныя навіны.
22.15. Ваш стыль.
22.20. "Дванаццаць крэслаў". Тэлеспектакль. 2-я серыя.

### 8-ы канал

18.00. Мультфільмы.
18.35. СОЛТЭК. Навіны.
18.45. Нямецкая хваля.
19.15. Мультсерыял У.Дыснея "Ліс і паляўнічы сабака". 3-я частка.
19.40. Пір.
19.50. Гарадскі гадзіннік.
20.05. Тэлесерыял "Лёс рэзідэнта". 3-я серыя.
21.30. Студыя "БМ". Праграма "Пілігрым".
21.50. Маст. фільм "Фауст у спадніцы" (Іспанія).

## Чацвер, 15 верасння

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.40. "Колер папаратніка". Фільм-канцэрт.
9.30. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял (Бразілія).
10.30. Урокі здароўя. Да Міжнароднага года сям'і.
11.05. "Расследаванне распачаць". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
13.15. "Бімбат". У студыі ўрач-сексапатолаг У.Дамарацкі.
13.35. "Людзі на балоце. Палеская хроніка". 7-я і 8-я серыі.
15.50. "Падушка для сонейка", "Заяц, Скрып і Скрыпка". Мультфільмы.
16.20. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. Мікола Гусоўскі і яго паэма "Песня пра зубра".
16.45. "Як нараджаецца музыка?" Музычны тэатр СШ N 16 г.Бабруйска.
17.10. "Бімбат". Музычныя навіны.
17.30. Навіны (з сурдаперакладам).
17.40. Дзедка за рэпку. Парады агароднікам.
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Зачытайце маё пісьмо...
19.05. Рэпартаж з Міжнароднага хрысціянскага фестывалю яўрэйскай музыкі і танца.
20.20. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
22.35. Пад купалам Сусвету.
22.45. НІКа.
23.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок".
0.30. Надвор'е.

### Канал "Астанкіна"

5.30. Раніца.
7.00, 10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.35. Навіны.
7.15. "Раніца".
8.00. Агляд рынку нерухомасці.
8.15. Паглядзі, паслухай...
8.35. "Дзікая ружа".
9.05. У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
9.45. Прадпрымальнік.
15.25. "Вайна гобатаў".
15.50. Мульцітролія.
16.05. ...Да 16 і старэйшым.
16.40. Планета.
17.25. Маналог.
17.40. Загадка СБ.
17.50, 20.30. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа".
18.55. Эксклюзіў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква — Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
21.30. А.Сордзі ў мастацкім фільме "Я і Кацярына". 1-я і 2-я серыі (Італія).
23.45. Расійскі адкрыты кінафестываль "Кінашок-94".
0.15. Я вам спяю.
0.40. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
6.20. Патрабуюцца...
6.30. Формула-730.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. Сам сабе рэжысёр.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. Кліп-антракт. Ю.Шатуноў.
8.30. Паехалі.
8.40. "Санта-Барбара".
9.30. "Дом Раманавых". 2-я серыя.
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост". "Музычны клас".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. Рубяжы.
17.05. Будні.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. Футбол. Кубак кубкаў. ЦСКА — "Ферэнцвараш" (Венгрыя). У перапынку — 19.25. — Падрабязнасці.
20.30. "Санта-Барбара".
21.25. Свая гульня.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Час Мераба". Дак. фільм.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Гісторыя рускай сядзібы". Дак. фільм.
14.45. "Сэрцы чатырох!". Мастацкі фільм.
16.20. Еўрапейскі калейдаскоп.
16.50. Па сакрэту ўсяму свету.
17.00. Дзецям пра зверанят.
17.20. "Лятаючы суслік". Мультфільм.
17.30. Парады садаводам.
17.40. Рэформа і ўлада.
18.10. Вялікі фестываль.
18.50. Спорт, спорт, спорт...
19.05. "Сцеражыся аўтамабіля". Маст. фільм.
20.40. "Зоркі ў кандуктарскай сумцы". Музычны фільм.
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. О-ля-ля!
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Па ўсёй Расіі.
22.00. Спартыўныя навіны.
22.15. Ваш стыль.
22.20. "Вячэрні звон". Музычны канал.

### 8-ы канал

18.00. Мультфільмы.
18.25. "Гісторыя яго кахання". 1-я частка.
19.10. БАНТ. Рэпартаж.
19.15. Мультсерыял У.Дыснея "Тры кабальеры". 1-я частка.
19.45. Да ведама.
20.00. Пір.
20.15. Тэлесерыял "Лёс рэзідэнта". 4-я серыя.
21.30. Студыя "БМ". "Квадракола". Праграма-авангард.
21.50. Маст. фільм "Раманс Мэрфі" (ЗША).

## Пятніца, 16 верасня

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.40. "Ружовы вецер". Дак. фільм.
9.00. Беларуская літаратура. "Вяртанне блукаючай зоркі". Мікола Гусоўскі і яго паэма "Песня пра зубра".
9.25. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
10.25. "Пяць зорак". Тэлегульня.
11.35. Кінанастальгія. "Добраахвотнікі".
13.10. "Бімбат". Музычныя навіны.
13.30. "Цырк прыехаў". Тэлефільм.
14.20. "Першакласны калейдаскоп". Пазнавальна-забаўляльная праграма для дзяцей і бацькоў.
14.45. "Па шчупаковаму загаду". Мультфільм.
15.00. "Беражыце жанчын". Маст. фільм.
17.05. "Бімбат". Праграма для падлеткаў.
17.30. Навіны (з сурдаперакладам).
17.40. "Прагулка ката Леапольда". "Помста ката Леапольда". Мультфільмы.
18.10. Абласныя навіны (Магілёў).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Эканамікст.
19.10. Партрэт на фоне часу.
19.40. Рэйтынг.
19.55. "Вынаходка". Мультфільм для дарослых.
20.05. Студыя "Тэлесябрына". Падарункі на добры настрой.
20.20. Кантакт.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Хуткі поезд". Мастацкі фільм.
23.15. Пад купалам Сусвету.
23.25. НІКа.
23.40. Гуляем у стрытбол. Спартыўная праграма.
0.10. Надвор'е.

### Канал "Астанкіна"

5.30. Раніца.
7.00, 10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
7.15. Працяг праграмы "Раніца".
8.00. Новы старт.
8.15. "Сарока". Дзіцячая інфармацыйная праграма.
8.35. "Сава". Мультфільм.
8.50. "Дзікая ружа".
9.15. Дапамажы сабе сам.
9.45. Бізнес-клас.
15.25. Мастацкі фільм "Казка пра Зорнага хлопчыка". 1-я серыя.
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Чалавек і закон.
17.55, 20.35. Надвор'е.
18.00. "Тут з маім болем я жыву..."
18.20. "Дзікая ружа".
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Чалавек тыдня.
21.05. "Вуліцы Сан-Францыска". Тэлесерыял.
22.05. "Погляд" з А.Любімавым.
23.10. Хакей. Чэмпіянат МХЛ. ЦСКА — "Крылы Саветаў".
0.30. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
6.20. Патрабуюцца...
6.30. Формула-730.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. Джэнтльмен-шоу.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. Ранішні канцэрт.
8.40. Паехалі.
8.50. "Санта-Барбара".
9.40. Тэатральны раз'езд. "Няхай няўдачнік плача".
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія. "Востраў Кананерскі".
16.50. Дысней па пятніцах. "Яшчэ не чалавек-2". Мастацкі фільм. 1-я серыя.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. Экспацэнтр прадстаўляе.
18.05. XX стагоддзе ў кадры і па-за кадрам. С.Бандарчук.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. "Гарадок". Забаўляльная праграма.
20.55. Кліп-антракт. А.Газманаў.
21.05. "Пацалунак у дыяфрагму".
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Нашэсце". Мастацкі фільм.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Наваселле ў браткі Труса". Мультфільм.
14.00. "Сярэбраная паляна". Фільм-канцэрт.
14.45. "Сцеражыся аўтамабіля". Маст.фільм.
16.15. Тэлемагазін.
16.20. "Пад адным дахам", "Лясныя казкі". Мультфільмы.
16.50. "Дуэт маладых". Музычны фільм.
17.25. Казка за казкай. Адказы на пісьмы.
18.10. Вялікі фестываль.
18.50. Спорт, спорт, спорт...
19.05. "Аб тым, чаго не было". Маст. фільм.
20.25. "Трыстан і Ізольда". Фільм-балет.
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. Ад першай асобы.
21.25.Тэлемагазін.
21.30. Будні.
22.00. Спартыўныя навіны.
22.15. Ваш стыль.
22.20. Анталогія зарубежнага кіно. "Парфум".

### 8-ы канал

18.00. Мультфільмы.
18.30. СОЛТЭК. Дорэміфасолькі.
18.40. "Гісторыя яго кахання". 2-я частка.
19.25. БАНТ. Рэпартаж.
19.30. Мультсерыял У.Дыснея "Тры кабальеры". 2-я частка.
20.05. Гарадскі гадзіннік.
20.20. Тэлесерыял "Вяртанне рэзідэнта". 5-я серыя.
21.30. Студыя "БМ". "Дзевяты яблык". Праграма пра нязведанае.
21.50. Маст. фільм "Прачнуцца ў Шанхаі".
23.10. "Час мясцовы".

## Субота, 17 верасня

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.50. Здароўе.
9.20. "Хуткі поезд". Мастацкі фільм.
11.00. Паказвае Магілёў.
11.30. 20 мінут рэдактара.
11.50. "Лулу — анёл кветак".
12.25. Гарадкі. Чэмпіянат Еўропы.
13.05. "Бімбат". Праграма для падлеткаў.
13.30. Да 70-годдзя кінастудыі "Беларусьфільм". "Я родам з дзяцінства". Мастацкі фільм (1967 г.).
15.15. "Сярдзіты КГ". Рэпартаж з міжнароднага рок-фестывалю.
15.55. "Домік для ўсіх". Мультфільм.
16.10. "Першая скрыпка". Народны артыст Беларусі Леў Гарэлік.
17.00. Футбол. "Дынама-93" (Мінск) — КІМ (Віцебск).
17.50. "Полацкая пячатка". Кінанарыс.
18.00. "Чарапашкі ніндзя".
18.25. "Падводныя лодкі — акулы са сталі". Дак. серыял, 1-я серыя (Аўстралія).
18.55. "Нов і К"-топ-10.
19.55. Міжнародныя спартыўныя навіны.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. "Зоркі" на экране. "Развітальныя гастролі".
23.00. "Каскад". Пра бізнес і бізнесменаў.
23.20. Відзьма-нявідзьма.

### Канал "Астанкіна"

6.30. Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.15. Спорт-шанц.
7.45. Слова пастара. Мітрапаліт Кірыл.
8.00. "Марафон-15" — малышам.
8.30. Інфармацыйны выпуск "Спектр".
8.40. Голас Азіі. Міжнародны конкурс папулярнай музыкі і песні. Перадача 1-я.
10.00. Я — жанчына.
10.30. Ранішняя пошта.
11.00. Навіны культуры.
11.10. Смак.
11.25. Перааdоленне.
11.55. Кінапраўда? "Шукальнікі шчасця".
14.00, 23.00. Навіны.
14.20. Лабірынт. Прыватызацыя ў нас і ў іх.
14.50. "Кэтвізл".
15.20. Грай, гармонік!
16.10. "Жыццё заапаркаў".
16.50. IV Маскоўскі міжнародны тэлевізійны музычны фестываль "Ступень да Парнаса".
17.00. Разумнікі і разумніцы.
17.45. Да і пасля...
18.35. Мастацкі фільм "Справа аб выкраданні дзіцяці Ліндберга". 2-я серыя.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны плюс.
20.35, 23.10. Надвор'е.
20.45. "Справа аб выкраданні дзіцяці Ліндберга". 3-я серыя.
21.40. Кабарэ "Усе зоркі".
22.25. Магік-шоу.
23.20. Астралябія.
0.10. Аўта-шоу.

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.25. "Непраўдзівая каліна". Дак. фільм.
7.45. "Дзень нараджэння Дональда Дака". 2-я частка.
8.15. Мульці-пульці. "Рыкі-Цікі-Таві".
8.45. Тэлеэрудыт.
8.50. Пілігрым.
9.35. Музыка ўсіх пакаленняў.
10.05. Зваротны адрас.
10.55. "Пунсовая кветачка". Маст. фільм.
12.10. Мір і вайна.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.20. Ізабэль. Забаўляльная віктарына.
14.05. Футбол без граніц.
15.00. Кліп-антракт. Н.Сенчукова.
15.05. Расія распятая.
15.50. Зоркі Амерыкі.
16.20. "Вакол свету за 80 дзён". Мультфільм (ЗША).
17.15. Вуснамі дзіцяці.
17.45. Тэлеэрудыт.
17.50. Свята кожны дзень.
18.00. Аншлаг і Ко.
19.25. "Рукапіс, знойдзены ў Сарагосе". Мастацкі фільм. 1-я серыя.
21.05. Фільмі-прэм'ер.
21.25. Зусім сакрэтна.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Праграма "А".
23.35. "Не хадзіце, дзеўкі, замуж". Маст.фільм.

### Санкт-Пецярбург

9.00. "Гадзіна Фрэйзера". Рэлігійная праграма.
9.30. Чароўная лінія.
9.45. "Парфум". Мастацкі фільм (ЗША).
11.35. "Чарапахі", "Муравейка Ціпа". Мультфільмы.
12.10. "Возера лебядзінае". Фільм-канцэрт.
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Чужая радня". Мастацкі фільм.
15.10. "Казкі-недаказкі". Фільм-канцэрт. "Тут могуць вадзіцца тыгры". Мультфільм.
15.40. "Марыяна першая". Мультфільм.
16.10. Кідайка.
16.50. "Кешка і маг". Мастацкі фільм.
17.20. На палітычным Алімпе. Данское казацтва.
18.10. Вялікі фестываль.
18.30, 21.45. Інформ ТБ.
18.55. Экспрэс-кіно.
19.15. "Страсці". Тэлесерыял.
20.50. Жульет Грэко. Канцэрт у зале "Алімпія".
22.05. Ваш стыль.
22.10 "Дом кіно". Сышоўшы з нябёсаў запаветных...

### 8-ы канал

15.00. "Забытае кіно?.." Маст. фільм "Жыве такі хлопец".
16.35. Прапаведнік Кенет Коупленд.
17.05. Музычны фільм.
17.50. Мультсерыял У.Дыснея "Тры кабальеры". 3-я частка.
18.30. СОЛТЭК. Спартыўная мазаіка.
19.00. Фірма "Кедберы" і ММ-4 прадстаўляюць музычную праграму.
20.00. "Пры свечках".
20.20. Тэлесерыял "Вяртанне рэзідэнта". 6-я серыя.
21.30. Студыя "БМ". Праграма "На даху".
21.50. Маст. фільм "Вялікі Шу" (Польшча).

## Нядзеля, 18 верасня

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.30. Слова да чалавека.
9.00. Беларускі тур. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
9.20. "Чарапашкі ніндзя".
9.45. Нядзельная пропаведзь ксяндза Уладзіслава Завальнюка.
9.55. Аэробіка. Урокі Наталлі Наважылавай.
10.25. Дайнова-інвест: "MTV. Лепшыя хіты".
10.55. Тэлевізійны шашачны клуб.
11.25. Існасць. На фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа" ў Магілёве.
12.10. Зрабі сабе кар'еру. Прамая лінія.
12.40. Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, традыцыі.
13.30. "Сунічны дождж", "Мама для маманцяняці". Мультфільмы.
13.45. "Паласаты рэйс". Мастацкі фільм.
15.15. "Тры апельсіны". Музычная праграма.
15.35. Дзелавы веснік.
15.50. Тэлеклуб "Гаў-гаў".
16.20. "Гінес-шоу".
16.50. "Чарапашкі ніндзя".
17.15. Тэлекрама.
17.25. "Настальгічны дывертысмент". Гісторыя ДАВТа Беларусі ў асобах.
18.30. Праспект. Інфармацыйна-аналітычная праграма.
19.00. Футбол. "Дынама" (Мінск) — "Днепр" (Магілёў).
20.00. Панарама.
20.35. Пяць хвілін на жарты.
20.45. Калыханка.
21.05. Пад купалам Сусвету.
21.15. "Сінема" прадстаўляе. "Шлюб па-італьянску". Мастацкі фільм (Італія).
23.05. Гонкі для Беларусі.
23.40. Камп'ютэрны палігон.
23.55. Лета фестывальнае. "Славянскі базар-94". Ноч з Мішэлем Легранам (паўтор).

### Канал "Астанкіна"

7.15. Алімпійская раніца.
7.50. Спортлато.
8.00. Марафон-15.
8.30. Раным-рана.
9.00. Палігон.
9.30. Пакуль усе дома.
10.00. Ранішняя зорка.
10.50. Зямля людзей.
11.20. Авіякасмічны салон.
11.40. Люстэрка. Перадача для дзяцей і бацькоў.
12.20. Малыя гарады Расіі.
12.50. Шпаргалка з падарункам.
13.10. "Падводная адысея каманды Кусто".
14.00, 17.15, 23.00. Навіны.
14.20. Тэлерадыёкампанія "Мір".
15.05. Амерыка з М.Таратутам.
15.35. Вялікі тэатр. Дні і вечары.
16.20. Клуб падарожнікаў.
17.25. Тэлелоцыя.
17.40. Жывое дрэва рамёстваў.
17.45. "Баскетбольная ліхаманка", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды".
18.40. Бамонд.
18.55. Надвор'е.
19.05. "Вялікае мыццё" Маст. фільм. (Францыя).
21.00. Нядзеля.
21.50. Спартыўны уік-энд.
22.10. Парад фестываляў. Венецыя.
23.15. Футбол. "Лакаматыў" (Масква) — "Тэкстыльшчык" (Камышын).

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.25. "Лена і Рыта". Дак. фільм.
8.00. Студыя "Рост".
8.30. Добрай раніцы, Еўропа!
9.00. Правінцыяльныя пісьмы.
9.30. "Лад"-галерэя. Мастак Алег Цалкоў.
10.00. Аты-баты...
10.30. Здарова жывеш.
10.45. "Абдуладжан, ці Прысвячаецца Стывену Спілбергу".
12.15. Шостае пачуццё.
12.40. Шэсць сотак.
13.20. Не высечы...
13.40. У цяні манастырскіх сцен.
14.10. Зброя і закон. Праграма цыкла "Паліцыя ЗША".
14.35. Рэтра-шлягер.
15.05. Узлёт і падзенне Джудзі Гарланд.
15.35. У свеце жывёл.
16.30. Каробка перадач.
16.45. Свята кожны дзень.
17.00. "Гуфі і яго каманда", "Чорны плашч".
18.00. "Дзень нараджэння". Канцэрт Эдзіты П'ехі.
19.25. "Рукапіс, знойдзены ў Сарагосе". Мастацкі фільм. 2-я серыя.
21.25. У Ксюшы.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Поўня.

### Санкт-Пецярбург

9.00. "Гаючае слова". Праграма-набажэнства.
9.30. "Клемянціна". Мультфільм.
10.00. Экспрэс-кіно.
10.15. "Асенняя дарога да мамы". Кароткаметражны фільм.
11.00. Нядзельны лабірынт.
12.30. Сем сланоў.
13.00. "Казачнае падарожжа Більбо Бегінса Хобіта".
14.05. "Дзень нараджэння", "Лавіся, рыбка". Мультфільмы.
14.20. Залаты ключ.
14.30. Хохін круіз.
14.55. "Марыя Сцюарт". Опера С.Слонімскага ў пастаноўцы Малога опернага тэатра.
16.15. Гістарычны альманах.
17.00. Чэмпіянат Італіі па футболу.
18.50. Харэаграфія Марыса Бежара.
19.20. Тэлетэкст.
19.30. Інформ ТБ.
19.55. "Тайна". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
22.15. Ваш стыль.
22.20. Адамаў яблык.

### 8-ы канал

15.00. Маст. фільм "Шчаня".
16.40. "Спартак" — дзеючыя асобы і выканаўцы.
17.10. Мультфільмы.
17.40. "Асабістая справа Ганны Ахматавай".
18.45. Інтэрв'ю.
19.15. СОЛТЭК. Пік.
19.50. Тэлесерыял "Канец аперацыі "Рэзідэнт". 7-я серыя.
21.00. Студыя "БМ". Праграма-дайджэст.
21.20. Тэлесерыял "Канец аперацыі "Рэзідэнт". 8-я серыя.
22.30. Foxy music.

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# Юрый НІКУЛІН: "Я ў вечнасць не пляваў"



***Памятаеце, у Казьмы Пруткова:"Калі на клетцы слана прачытаеш надпіс "буйвал", не вер вачам сваім"? Хай даруе мне Юрый Уладзіміравіч Нікулін, але, уваходзячы ў яго дырэктарскі кабінет, з шыльдай на дзвярах, з вялікім старасвецкай работы разным сталом, з паперамі, тэлефонамі, фатэлем і іншымі канцылярскімі атрыбутамі, я, як кажуць, не паверыў вачам сваім. Бо ўспрымаў Нікуліна перад усім як акцёра. У звычайным сваім касцюме без грыму, пражэктараў і аркестра, ён усё роўна заставаўся чалавекам цырка, яго душой. Вось чаму і размова ў нас пайшла не аб праблемах, якімі заняты цяпер Нікулін-дырэктар. Мы размаўлялі пра тое, што было і засталося сэнсам жыцця Нікуліна — артыста цырка, — пра клоунаў і клаунаду.***

**— Юрый Уладзіміравіч, я добра памятаю, як дванаццаць гадоў таму ў Калінінскім цырку Вы развіталіся з манежам. Тады пытацца аб прычыне гэтага было рана і нетактоўна. Ну, а цяпер маглі б Вы растлумачыць, чым кіраваліся? Так, шэсцьдзесят, але працавалі ж яшчэ няўдрэнна...**

— Некалі ўбачыў старога клоуна, які ледзь-ледзь хадзіў па манежы і якога было шкада (я тады яшчэ малады быў, гадоў сорак), і я сказаў сабе: даю слова, што калі мне споўніцца шэсцьдзесят гадоў, пайду з манежа, незалежна ад таго, ці буду адчуваць сябе выдатна і яшчэ змагу працаваць. Трэба сысці своечасова. І я вельмі сур'ёзна рыхтаваўся да гэтага, як кажуць, падбіваў усе бабкі. І мой партнёр Міша Шуйдзін таксама маральна быў настроены развітацца са мною.

Помню, мяне тады яшчэ Уцёсаў падтрымаў. Я кажу: "Леанід Восіпавіч, я вырашыў сыходзіць на пенсію роўна ў шэсцьдзесят гадоў".— А ён:"Малайчына, лепей сысці на год раней, чым на два дні пазней".

**— Вы задаволены сваёй цыркавой кар'ерай?**

— Задаволены. Вялікую, неацэнную дапамогу мне дало кіно. У сэнсе рэкламы. Я нават па-іншаму стаў працаваць у цырку. Памятаю, калі пасля трэцяга альбо чацвертага фільма я выйшаў на манеж, адбыўся пацешны выпадак, пра які мне распавяла адна білецёрка. Сядзела ў зале нейкая дама з мужам-палкоўнікам, убачыла мяне на манежы, усклікнула:"Глядзі, глядзі, Нікулін, як ён у той цырк трапіў?" Здаецца, ёй нават крыўдна за мяне альбо за кіно стала...

З іншага боку, папулярнасць такая шмат да чаго абавязвала. Памятаю, у Запарожжы чарга стаіць вялізная, абвіваецца вакол цырка. Я якраз толькі прыехаў, праходжу побач. Раптам нейкая жанчына мяне пазнала, выбягае з чаргі:"Нікулін?" — я кажу:"Так". — "Ну і ўсё. Я вас убачыла, дык білет мне не патрэбны".

У чым радасць артыста цырка? Адносная, вядома. Мы маем магчымасць давесці працу да канца. У кіно што знята альбо ў той жа кнізе што напісана — ужо сякерай не высечаш. Зроблены копіі — і ўсё. Мне вельмі спадабалася, як сказала Ранеўская:"Юрачка, я знялася ў карціне — жах, кашмар, ганьба! Вы ведаеце, што такое зняцца ў дрэнным фільме? Гэта ўсё роўна, што плюнуць у вечнасць. Вы памраце, а плявок будзе ляцець туды, наперад, і ўсім будзе бачны дрэнны фільм". Праўда, добра сказана: "плюнуць у вечнасць"? І гэткія пляўкі ў вечнасць бываюць у кіно і ў літаратуры. А мы, цыркавыя комікі, часткова абаронены. Так, у нас бываюць няўдачы, але калі мы спрабуем новую рэч, па першым ужо спектаклі адчуваем, атрымаецца ці не.

**— Якія ў Вас былі адносіны з партнёрам Міхаілам Шуйдзіным? Вядома, што ўзаемаадносіны ў клоунскіх дуэтах, як правіла, складваюцца дастаткова цяжка.**

— Да звадак, а тым больш да развалу ў нас не даходзіла ніколі. Спрэчкі былі, але часцей творчыя.

Столькі гадоў поруч — мы ж прапрацавалі з 49-га па 82-і год. Цяпер, калі сышлі з манежа, а асабліва пасля смерці Мішы, я вельмі часта бачу ў сне, што працую з ім у цырку. Мне часта сніцца цырк... Але часцей нейкія непрыемнасці. І самае страшнае: робім рэпрызу ў манежы — і ніхто не смяецца. Прыкрыя сны...

**— І цяпер таксама сняцца?**

— Так. Дужа часта. Я прачынаюся і Тані кажу: "Зноў цырк, зноў Мішу нашага бачыў..." Дарэчы, вашым чытачам будзе цікава даведацца, што клоун Шуйдзін быў падчас вайны камандзірам танка, некалькі разоў гарэў. А у 44-м першым ўварваўся ў горад Вілейку. Міша — пачэсны жыхар гэтага беларускага горада.

У нас было няшмат рэпрызаў. Нас лічылі лянівымі. Можа, і так. Затое ўсе нашыя рэпрызы былі дабраякасныя, іх не трэба было саромецца...

Карандаш мне сказаў аднойчы: "Юра, запамятай адну рэч: клоун павінен быць ніжэй, чым публіка. Таму ўсе смяюцца. А ў нейкі момант ён становіцца вышэй і ўзвышаецца сваёй хітрасцю, сваёй нечаканай кемлівасцю, з якой ён са складаней сітуацыі выкручуецца. І гэта яшчэ болей захапляе гледачоў. І ўсё ж такі з разумнага чалавека смяяцца не будуць. Калі артыст пачне паказваць, што ён вышэйшы за гледача і разумнейшы, смешным не будзе".

Усё павінна быць у меру. Што, няўжо ў Карандаша быў такі ўжо смешны касцюм? Так, у яго боўталіся шырокія штаны, куртаты пінжачок, капялюш, сам ён быў маленькага росту. Але ў прынцыпе быў пазнавальны.

Я ўжо не кажу пра клоуна Сяргеева, які выступаў пад псеўданімам Серго, а сярод нас яго называлі Мусля.

**— Кажуць, ён памёр дзесьці ў Сярэдняй Азіі ў бядоце і невядомасці?**

— Так, гэта праўда. Ён памёр у горадзе Ош. Апошнім часам быў у якогасьці асілка, які па калгасных клубах халтурыў, а Мусля ў яго за кілішак гарэлкі запаўняў паўзы, пакуль той адпачываў. Начаваў дзесьці ў сенцах у гэтага асілка... Гісторыя, безумоўна, жахлівая...

**— А Канстанцін Мусін? Нягледзячы на папулярнасць, жыццё яго не вельмі песціла. Вы сустракаліся з ім у апошнія гады?**

— Так. Ён быў цяжка хворы, пайшоў з цырка, жыў у Ташкенце. Мы там здымалі "Дваццаць дзён без вайны". Я прыходжу ў стары цырк, там быў інтэрнат, і раптам бачу: Мусін стаіць. Я пытаюся, як маешся? Ён вядзе мяне да сябе ў інтэрнат, а той жахлівы, нават дзвярэй няма, вісіць нейкаяануча... Нейкі тапчан, нейкая плітка... "Мы так жывём пяць гадоў". "А кватэра?" "Не даюць".

Дзякуй Богу, я здолеў яму дапамагчы. Праз тры месяцы атрымліваю ліст ад жонкі Мусіна. Яна піша, што ім далі аднапакаёвую кватэру, і калі Косця зайшоў на кухню, ён стаў на калені перад газавай плітой і стаў цалаваць яе. А праз два гады Косця Мусін памёр...

Вось такія сумныя сустрэчы...

**— Юрый Уладзіміравіч, такое ўражанне, што ў Вас няма ворагаў. Як жа Вы можаце спалучаць добрыя адносіны з артыстамі і пасаду кіраўніка цырка? Трэба ж камусьці адмаўляць, больш таго, казаць у твар непрыемныя рэчы.**

— А я і кажу. Звычайна адразу папярэджваю: можаш быць са мной не згодны, таму што гэта маё меркаванне. Праўда, ніколі не скажу: гэта дрэнны нумар, кажу інакш: мне здаецца, тут дрэнна гэта, тое і тое. Што ж рабіць, бывае, што крыўдзяцца, а як па-іншаму?

Ёсць меркаванне, што акцёр, маўляў, вельмі ранімы. Але заўсёды лепей сказаць горкую праўду, чым прыгожую ману.

А нарэшце таго, што добры да артыстаў, гэта праўда, я шкадую ўсіх, нават дрэнных. Калі б зусім знікла злосць, калі б усе людзі сталі дабрэйшымі, больш цярпімымі адзін да аднаго, уяўляеце, наколькі радаснай стала б жыццё.



**Аляксандр РОСІН**
**(З цыкла "Клоун без грыма")**

Масква — Мінск

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:
А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.